• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ○ цана 1000 рублёў

14 снежня 1996 г. субота, № 290 (23093)




# ЗВЯЗДА

## АБМЕРКАВАНЫ ПРАБЛЕМЫ ЭКАНАМІЧНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 13 снежня ў сваёй рэзідэнцыі сустрэўся з прадстаўнікамі палітычных і дзелавых колаў Расіі.**

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, у ходзе сустрэчы былі разгледжаны праблемы далейшай эканамічнай інтэграцыі дзвюх краін, рэалізацыі сумесных праектаў.

У ёй прынялі ўдзел дэпутаты Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі У. В. Жырыноўскі і М. Л. Манастырскі.

Сустрэча прайшла ў цёплай, дружалюбнай абстаноўцы.

**БЕЛТА.**

## ПРЭСТЫЖНЫ ДОМ ПОЙДЗЕ «З МАЛАТКА»

Частка прэстыжнага жылога дома, пабудаванага ў цэнтры Мінска па вуліцы Лодачнай, будзе прададзена на аўкцыене, які пройдзе 23 снежня ў Палацы культуры прафсаюзаў. Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА начальнік аддзела аўкцыённага і конкурснага продажу Мінскгармаёмасці Канстанцін Васілевіч, патэнцыяльнаму пакупніку прапануецца поўнасцю набыць секцыю будынка, дзе ўсе будаўнічыя работы выкананы ўжо на 95 працэнтаў. У гэту частку дома ўваходзяць 18 трохпакаёвых кватэр плошчай больш за 100 квадратных метраў кожная і адна аднапакаёвая кватэра. Стартавая цана лота крыху больш за 30 мільярдаў рублёў.

На думку спецыялістаў нерухомасці, гэты аб'ект камунальнай уласнасці беларускай сталіцы можа зацікавіць банкі, фінансавыя кампаніі, паспяхова дзеючыя сумесныя прадпрыемствы. Адным словам, усіх, хто можа «вылажыць» кругленькую суму адразу за ўвесь блок і набыць камфортнае жыллё сабе і сваім работнікам. Сродкі, атрыманыя ад продажу, паводле слоў Канстанціна Васілевіча, пойдуць на патрэбы горада.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

### ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

### ... ПРЫВАТНЫЯ АЎТАМАБІЛІ ХУТКА БУДУЦЬ ЗАПРАЎЛЯЦЬ ТОЛЬКІ ЗА ВАЛЮТУ

Сярод тых, хто мае аўтамабілі, зноў неспакойна: услед за нядаўнім падаражаннем паліва, што не магло прайсці бясследна для кашалькоў і нерваў прыватнікаў, з'явілася навіна, нібыта ў хуткім часе сваіх «жалезных коней» яны змогуць запраўляць бензінам толькі за валюту. Увядзенне гэтай меры адны тлумачылі скарачэннем аб'ёмаў паставак у краіну расійскай нафты, другія сцвярджалі, што такім чынам урад збіраецца папаўняць запасы наяўнай валюты, якой, як вядома, апошнім часам не хапае на латанне шматлікіх дзірак у народнай гаспадарцы. Каб высветліць дакладнасць чутак, мы звярнуліся ў дзяржаўны канцэрн «Белнафтапрадукт».

Па словах яго віцэ-прэзідэнта Аляксандра Мазаніка, «у канцэрне такой інфармацыяй ніхто не валодае». Магчыма, падставай для такіх чутак стала набыццё за мяжой за валюту высокаактанавых бензінаў, што вялося і раней. Але, як падкрэсліў Аляксандр Міхайлавіч, ніякіх загадаў запраўляць прыватнікаў за валюту няма. Тое ж самае карэспандэнту «Звязды» сказалі і ў аб'яднанні «Мінскаўтазапраўка». Там ні з канцэрна, ні адкуль-небудзь вышэй не атрымлівалі ніякіх патрабаванняў перайсці на продаж паліва для прыватнікаў за валюту.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ФОТАСЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Калі спрадвечны звон плыве —*
*І радасць, і пакуты чую.*
*На Беларусі Бог жыве,*
*Але ж і д'ябал тут банкуе.*
*На Беларусі мы жывём*
*Кахаем, верым, спадзяёмся,*
*З атручанай крыніцы п'ём,*
*У труне чарнобыльскай смяёмся.*
*На Беларусі боль жыве,*
*Але ж і выбар маюць людзі:*
*Жыццё адно, а смерці дзве —*
*Ці стоячы, ці ніцма ў брудзе.*
*Жывём браточкі — як пяём,*
*Ідзём — куды вядзе дарога.*
*Усё купляем, што знясём,*
*І прадаем усё — нават Бога.*
*Што ёсць, што будзе — ўсё міне,*
*Але ж былое застаецца —*
*Ледзь толькі ветрам звон кране —*
*Званочак ў сэрцы адгукнецца.*
*А ўчую пахавальны звон —*
*Прад Богам я не разгублюся:*
*Што рай, што пекла — ўсё адно,*
*Я ўсё зазнаў на Беларусі.*



## Замежныя «беларусы» «Ікарус», «Неаплан» адчуваюць сябе не лепш, чым «Нёман»

**Што сталіцы не хапае грамадскага транспарту, можа дакладна сказаць кожны, хто карыстаецца яго паслугамі. Аўтобусны парк Мінска і рэспублікі ўвогуле патрабуе значнага аднаўлення. Па ацэнках спецыялістаў, толькі Мінску сёння патрэбна 250 аўтобусаў, рэспубліцы — 2—2,5 тысячы. У далейшым патрэбы краіны ацэньваюцца ў 1,5 тысячы машын штогод.**

Аўтобусабудаўнічая галіна ў Беларусі параўнальна маладая: практычна адначасова ў 1994 годзе на вытворчасць гарадскіх і прыгарадных аўтобусаў зарыентаваліся лідскі вопытны завод «Нёман», МАЗ і канцэрн «Амкадор». Забяспечыць патрэбы беларускага парка айчынныя аўтобусабудаўнікі здольны на працягу некалькіх гадоў, нават пры ўмове паставак сваёй прадукцыі замежным пакупнікам. «Нёман» можа выпускаць 250 аўтобусаў у год, праектная магутнасць вытворчасці на Мінскім аўтазаводзе — 500 машын і столькі ж — на «Амкадоры». Аднак абставіны складваюцца інакш.

Лідскі завод, заказчыкам прадукцыі якога выступіла Міністэрства транспарту, вырабіў сёлета ўсяго 30 аўтобусаў пры планах вытворчасці ў чатыры разы большых. Цана аўтобусаў «Нёман» на працягу года не мянялася і складала 83,6 тысячы долараў. Падобная тэхніка расійскай вытворчасці каштуе танней. У планах прадпрыемства было да канца сёлетняга года перайсці на камплектацыю аўтобуса на 90 працэнтаў вузламі айчыннай вытворчасці, што дазволіла б знізіць сабекошт машыны. Тым не менш, па-ранейшаму доля прадукцыі украінскіх і расійскіх пастаўшчыкоў складае звыш 60 працэнтаў. Па словах намесніка генеральнага дырэктара завода «Нёман» Сцяпана Васільева, калі ўдасца камплектаваць прадукцыяй айчынных партнёраў у 2000 годзе — гэта будзе вялікім дасягненнем. Такая магчымасць толькі прапрацоўваецца.

МАЗ вырабіў сёлета 150 «Неапланаў». Акрамя Міністэрства транспарту і камунікацый рэспублікі віды на прадукцыю завода маюць пакупнікі з Прыбалтыкі і Расіі. У адрозненне ад лідскага завода МАЗ можа выпрабляць не толькі гарадскі і прыгарадны транспарт, але і аўтобусы далёкага накіравання.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## НЕЗАКОННА АТРЫМАНЫЯ КРЭДЫТЫ НА БУДАЎНІЦТВА ЖЫЛЛЯ ПАВІННЫ БЫЦЬ ВЕРНУТЫ З УЛІКАМ ІНФЛЯЦЫІ

**У Беларусі завершана праверка «ўзятых на дзяржаўны ўлік» катэджаў, якія ў апошнія гады былі пабудаваны вакол сталіцы і іншых буйных гарадоў рэспублікі, заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.**

Выступаючы ў чацвер па Нацыянальным тэлебачанні, ён паведаміў, што ў бліжэйшы час мае намер падпісаць указ, якім прадугледжваецца вяртанне ў дзяржаўны бюджэт з улікам інфляцыі ўсіх крэдытаў на будаўніцтва, «атрыманых у абход закона чыноўнікамі і іх блізкімі роднымі».

Гэтыя грошы, па запэўніванню А. Лукашэнкі, будуць накіраваны на будаўніцтва жылля для малазабяспечаных слаёў насельніцтва.

На пачатку 90-х гадоў Ашчадны банк Беларусі па рашэнню Савета Міністраў рэспублікі пачаў выдачу льготных крэдытаў на будаўніцтва жылля (на 20 гадоў пад 5 працэнтаў гадавых пры інфляцыі да 30 працэнтаў у месяц).

Права на атрыманне крэдыту мелі асобы, у якіх не было жылля.

Праведзенае ў далейшым па распараджэнню А. Лукашэнкі расследаванне выявіла нямала фактаў атрымання крэдытаў асобамі, якія ўжо мелі дзяржаўнае жыллё.

Паводле слоў Прэзідэнта, супрацоўнікі пракуратуры і Камітэта дзяржаўнага кантролю вернуцца да разгляду спраў, раней закрытых пракуратурай з прычыны адсутнасці саставу злачынства ў адносінах да многіх уладальнікаў катэджаў.

**Інтэрфакс.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 536

### Аб унясенні змянення ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 мая 1996 г. № 168

1. У пункце 3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 мая 1996 г. № 168 «Аб кампенсацыі ўкладаў насельніцтва» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 13, арт.331) словы: «да 500 млрд. рублёў» замяніць словамі: «да 900 млрд. рублёў».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

12 снежня 1996 г., г. Мінск.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 545

### Аб унясенні дапаўнення ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 1995 г. № 446

1. Дапоўніць пункт 3 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 31 кастрычніка 1995 г. № 446 «Аб некаторых сацыяльных гарантыях ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і пракурорскіх работнікаў» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 31, арт. 762; 1996 г., № 24, арт.591) абзацам трэцім наступнага зместу:

«Прадаставіць курсантам ваенна-навучальных устаноў (акрамя прапаршчыкаў), курсантам і слухачам вочнай формы навучання навучальных устаноў органаў унутраных спраў права бясплатнага праезду на ўсіх відах гарадскога пасажырскага транспарту (за выключэннем таксі) і на аўтамабільным транспарце агульнага карыстання ў сельскай мясцовасці (за выключэннем таксі), а таксама на чыгуначным і водным транспарце прыгарадных зносінаў і ў аўтобусах прыгарадных маршрутаў».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

12 снежня 1996 г., г. Мінск.

## ДЛЯ КАГО «АМЕРЫКАНСКАЯ МАРА» СТАНЕ РЭАЛЬНАСЦЮ?..

**Пасольства ЗША ў Беларусі распаўсюдзіла інфармацыю аб тым, што, згодна з Іміграцыйным законам ЗША, у наступным годзе (на 1998-ы фінансавы) праводзіцца латарэя, у якой разыгрываецца 55 тысяч віз на пастаяннае жыхарства ў Злучаныя Штаты Амерыкі.**

Згодна з гэтым законам, у розыгрышы маюць права ўдзельнічаць жыхары краін з нізкім узроўнем іміграцыі ў Амерыку. На гэты раз са спіса выключаны Кітай (уключаючы Тайвань), Індыя, Філіпіны, В'етнам, Паўднёвая Карэя, Канада, Мексіка, Ямайка, Сальвадор, Калумбія, Дамініканская Рэспубліка, Злучанае Каралеўства (акрамя Паўночнай Ірландыі). Доля Еўропы ў агульнай колькасці віз — 23.213.

Удзельнікі латарэі павінны быць ураджэнцамі адной з дапушчаных да латарэі краін, мець закончаную сярэднюю адукацыю або яе эквівалент, які адпавядае 12 гадам навучання ў Злучаных Штатах, або два гады работы за апошнія пяць гадоў па прафесіі, якая патрабуе як мінімум двух гадоў навучання.

Заяўкі ад жадаючых удзельнічаць у розыгрышы павінны паступіць у адну з арганізацый, якая займаецца латарэяй, з 3 лютага па 15 сакавіка 1997 года. Зрэшты, асабліва заўзятых ахвотнікаў за «амерыканскай марай» пасольства папярэджвае, што падача адным чалавекам некалькіх заявак аўтаматычна анулюе яго ўдзел. Акрамя таго, не пападзіцеся на вуду прыватных асоб або камерцыйных структур, якія будуць прапаноўваць свае паслугі, абяцаючы павялічыць шанцы на выйгрыш.

А аб тым, як трэба запоўніць неабходныя заяўкі на ўдзел у конкурсе і куды іх накіраваць, можна даведацца ў аховы Пасольства ЗША ў Беларусі (Старавіленская, 46) або пазваніць у консульскі аддзел па тэлефоне 315-000.

**БЕЛТА.**

## МІКОЛУ СТАТКЕВІЧА АСУДЗІЛІ НА 15 СУТАК. У АДКАЗ ЁН АБ'ЯВІЎ ГАЛАДОЎКУ

13 снежня ў памяшканні Цэнтральнага раённага суда Мінска адбыўся судовы працэс над старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) Мікалаем Статкевічам, які абвінавачваўся па артыкулу 167-2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Беларусі за ўдзел у несанкцыяніраваным мітынгу на плошчы Незалежнасці 8 снежня гэтага года і арганізацыю не дазволенага ўладамі шэсця па тратуарах мінскіх вуліц, якое адбылося ў гэты ж дзень.

Як вядома, 8 снежня, пасля завяршэння антыпрэзідэнцкага шэсця, Мікалай Статкевіч быў затрыманы разам з іншымі яго ўдзельнікамі, але суд над ім быў перанесены на 13 снежня. Судовае пасяджэнне было хуткацечным: яно пачалося прыблізна ў 9.20, а закончылася менш чым праз гадзіну. Кабінет, у якім разглядалася справа, быў невялікі, так што размясціцца там змаглі акрамя суддзі, яго сакратара і памочніка толькі сам падсудны, яго адвакат Н. Дударава, кіраўнік спраў БСДП, прадстаўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта ды сведкі, якія выклікаліся па чарзе.

Сведкі з боку М. Статкевіча і сам ён даказвалі, што гэта быў не мітынг, а сустрэча з дэпутатамі Вярхоўнага Савета і што Мікалай Статкевіч не заклікаў да несанкцыяніраванага шэсця, а толькі выказаў свой пункт гледжання, як ён будзе ісці з мітынгу. Людзі ж пайшлі па тратуарах праспекта Скарыны і іншых вуліц стыхійна. Мікола Статкевіч пры гэтым клапаціўся аб парадку падчас шэсця — такое было яго тлумачэнне і паказанні сведак М. Чарняўскага і А. Арастовіча. Сведкі ж ад міліцыі — начальнік аддзела аховы грамадскага парадку Цэнтральнага РАУС і оперупаўнаважаны УУС Мінгарвыканкома даказвалі адваротнае, што менавіта М. Статкевіч быў арганізатарам гэтага несанкцыяніраванага шэсця і ўзначальваў яго.

Пасля разгляду пісьмовых сведчанняў па справе і відэазапісу двух выступленняў Міколы Статкевіча на плошчы Незалежнасці 8 снежня суд палічыў справу дастаткова даказанай для таго, каб прызнаць Міколу Статкевіча вінаватым у парушэнні артыкула 167-2 адміністрацыйнага кодэкса і вынесці рашэнне аб пакаранні ў выглядзе пазбаўлення волі на 15 сутак. Суддзя адхіляў некаторыя пытанні і хадайніцтвы М. Статкевіча, працэс прайшоў вельмі хутка, так што адвакат практычна не змагла істотна паўплываць на яго ход.

Пасля абвяшчэння прысуду Мікола Статкевіч аб'явіў галадоўку ў знак пратэсту супраць такога судовага працэсу і прыгавору, які ён лічыць беспадстаўным.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## УДЗЕЛЬНІЦА МІТЫНГУ АСУДЖАНА ДА ДЗЕСЯЦІ СУТАК АРЫШТУ

12 снежня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска была разгледжана справа Ірмы Табушавай — удзельніцы несанкцыяніраваных мітынгу і дэманстрацыі 8 снежня. Суддзя Павел Каршуновіч разглядаў справу ў сваім службовым кабінеце. Пасяджэнне вялося вельмі жорстка, адвакату Надзеі Дударавай было адмоўлена ў папярэднім даследаванні матэрыялаў, што, па яе словах, з'яўляецца парушэннем адміністрацыйнага заканадаўства. Супрацоўнікі міліцыі, якія выступалі сведкамі па справе, прадставілі фота- і відэаматэрыялы, на якіх І. Табушава была зафіксавана сярод удзельнікаў дэманстрацыі, якія скандзіравалі: «Ганьба Расіі» і «Свабоду Беларусі». Сведкі абвінавачання сцвярджалі таксама, што І. Табушава быццам бы збіла фуражку ў аднаго з супрацоўнікаў міліцыі. Адвакат, аднак, звярнула ўвагу на тое, што гэты факт адсутнічае ў пратаколах, складзеных у дзень затрымання абвінавачваемай. Суд вынес даволі жорсткі для 56-гадовай жанчыны прысуд: 10 сутак арышту.

Адвакат Н. Дударава падала на імя пракурора Цэнтральнага раёна скаргу, у якой указваецца, што мера стрымання І. Табушавай не адпавядае фактычным абставінам справы. Апрача таго, не ўлічана, што ў абвінавачваемай знаходзіцца на ўтрыманні цяжка хворая маці, а таксама хварэе дачка.

Нестандартнасць гэтай справе надае той факт, што І. Табушава з'яўляецца сястрой цяперашняга міністра юстыцыі рэспублікі Валянціна Сукалы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**



## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

## ... ЭПІДЭМІЯ ГРЫПУ ЎЖО Ў СТАЛІЦЫ

**На пытанне «Звязды», ці можна сёння гаварыць, што эпідэмія грыпу ўжо ў горадзе, спецыялісты Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі адказалі катэгарычна: «Не!»**

Больш таго, эпідэміялагічных успышак гэтай хваробы пакуль не назіралася не толькі ў рэспубліцы, але і на мяжуючых з ёй тэрыторыях. Цяпер у сталіцы назіраецца сезонны ўздым рэспіраторных захворванняў: у суткі рэгіструецца па 3-4 тысячы захварэўшых. І толькі калі гэтая лічба павялічыцца ў 3-4 разы і дасягне 12—15 тысяч «пацярпеўшых», можна будзе з упэўненасцю сказаць, што грып пачаў сваю «чорную» справу.

Падобна, што сёлета грып крыху затрымаецца і прыйдзе замест звычайнага снежня ў студзені, калі скончацца школьныя канікулы і дзеці вернуцца ў школу. Увогуле, замкнёная прастора — для грыпу воля вольная. Добрае таму пацвярджэнне — нядаўняя ўспышка ОРЗ у Сувораўскім вучылішчы ў Санкт-Пецярбургу, дзе, дарэчы, быў выяўлены і ўзбуджальнік грыпу. Так што, магчыма, эпідэмія ў гэтым годзе прыйдзе да нас менавіта з берагоў Нявы.

Аднак, нягледзячы на тое, што эпідсезон яшчэ не пачаўся, грыпам усё ж захварэць можна і сёння. Справа ў тым, што ўзбуджальнік грыпу цыркулюе ў прыродзе на працягу года, але эпідэмію здольны выклікаць толькі відазменены вірус, які прыходзіць да нас «збоку» (да мінулагодняга віруса ў большасці насельніцтва, якое перахварэла, ужо выпрацаваўся імунітэт). Так што бытуючая ў народзе думка, што, пакуль афіцыяльна не прызнаны пачатак эпідэміі, у бальнічных лістах дыягназ «грып» не ставяць, на справе не пацвердзілася. Як сцвярджаюць медыкі, сімптомы грыпу пераблытаць ні з чым немагчыма...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## Замежныя «беларусы» «Ікарус», «Неаплан» адчуваюць сябе не лепш, чым «Нёман»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Цана «Неаплана» складае каля 130 тысяч долараў, зніжэння якой на прадпрыемстве маюць намер дасягнуць за кошт серыйнай вытворчасці (у 1997 годзе плануецца выпусціць некалькі соцень машын), а таксама змяншэння колькасці імпартных камплектуючых (хаця доля іх і сёння нязначная — 10—15 працэнтаў). «Неаплан», які выпрабляецца па нямецкай тэхналогіі, амаль не ўступае па якасці свайму замежнаму аналагу і значна перавышае па тэхнічнаму ўзроўню прадукцыю прадпрыемстваў СНД.

«Амкадор» вырабіў сёлета ўсяго каля 80 «Ікарусаў». У гэтым годзе, паводле слоў тэхнічнага дырэктара Віталя Сцепановіча, прадпрыемства займалася пераважна рамонтам. Заказчыкі (Міністэрства транспарту і аб'яднанне «Мінскпасажыраўтатранс») зрабілі заяўку на 38 аўтобусаў. Аплацілі вытворчасць пяці машын толькі ў верасні. На выкананне гэтага заказу прадпрыемству спатрэбіцца яшчэ паўтара месяца, бо венгерскія партнёры пастаўляюць камплектуючыя праз 60—90 дзён. Так што 20 снежня, калі лідскія калегі накіруюцца ў адпачынак, на «Амкадоры» работа будзе ісці поўным ходам.

Беларускі «Ікарус» сёння камплектуецца на 50—60 працэнтаў вузламі венгерскай вытворчасці. Плануецца, што з наступнага года колькасць замежных дэталяў будзе зведзена да мінімуму. Адпаведна, знізіцца і цана аўтобуса, які і сёння каштуе танней за венгерскі на 20 тысяч долараў — 118,870 тысячы. У наступным годзе прадпрыемства плануе прыступіць да вырабу «Ікарусаў» з нізкай пасадкай. Ці з'явяцца гэтыя машыны на вуліцах Мінска, пакажа час і, магчыма, тэндэр, верагоднасць якога не выключаюць спецыялісты. Тым не менш, прадпрыемства арыентуецца не толькі на рынак Беларусі, але і Расіі.

І ўсё ж планаваць сёння даволі складана. Яшчэ ў жніўні сёлетняга года СМІ паведамілі аб падпісанні аўтазаводам у Польшчы, Тутаеўскім маторным заводам (Расія), калінінградскім суднабудаўнічым заводам «Бурштын» і адміністрацыяй Калінінградскай вобласці пратакола аб стварэнні сумеснага прадпрыемства па зборцы пасажырскіх аўтобусаў. Прадаваць тэхніку новага СП плануецца ў Балтыі, аднак і беларускі рынак не застрахаваны ад магчымасці пранікнення прадукцыі канкурэнтаў. Безумоўна ж, пры ўмове цаны і якасці.

Зрэшты, айчынныя аўтобусабудаўнікі ў сваіх здольнасцях упэўненыя. Але ж галоўная праблема прадпрыемстваў сёння — адсутнасць абаротных сродкаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ПАМЯЦЬ АБ УЛАДЗІМІРУ РЫЖАНКОВЕ ЗАХАВАЕЦЦА Ў ЯГО СПРАВАХ

**Хвалюючыя словы развітання былі сказаны 13 снежня ля труны міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Рыжанкова.**

Грамадзянская паніхіда адбывалася ў будынку інфармацыйна-культурнага цэнтра Адміністрацыі Прэзідэнта па вуліцы Кастрычніцкай, 5. На жалобным мітынгу, прысвечаным памяці Уладзіміра Мікалаевіча, прамоўцы адзначалі не толькі яго высокія чалавечыя якасці, але і прынцыповую дзелавітасць, настойлівасць, веданне справы, якой ён поўнасцю аддаваў сябе.

— Уладзімір Мікалаевіч, — сказаў у сваім выступленні намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Русакевіч, — у многіх пачынаннях быў першым. Ён стаў першым прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта рэспублікі, а затым узначаліў першае ў Беларусі Міністэрства спорту і турызму. Яму многае было дадзена, і многае ён браў на сябе. Пры гэтым яго вызначала душэўная шчодрасць, спагадлівасць, глыбокая прыстойнасць. Гэтыя чалавечыя якасці заўсёды былі ўласцівы яму.

У грамадзянскай паніхідзе прыняў удзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### НОВАГА КАНДЫДАТА НА ПАСАДУ ГЕНСЕКА ААН ФРАНЦЫЯ НЕ ПАДТРЫМАЛА

Савет Бяспекі ўчора зноў абмяркоўваў пытанне аб выбарах генеральнага сакратара ААН на наступнае пяцігоддзе. Чарговы раунд папярэдняга галасавання, якое было праведзена на закрытым пасяджэнні Савета, паказаў, што кандыдатуру выстаўленага на гэтую пасаду прадстаўніка Ганы гатовы падтрымаць 14 з 15 членаў Савета Бяспекі. Пярэчыць толькі Францыя, якая, як пастаянны член СБ, мае права «вета».

### У ВЫНІКУ НАПАДУ ПАЦЯРПЕЎ СЫН САДАМА ХУСЕЙНА

Стан старэйшага сына прэзідэнта Ірака Садама Хусейна Удэя не выклікае апасенняў. Пра гэта гаворыцца ў афіцыяльнай заяве прадстаўніка кіраўніка іракскай дзяржавы. Удэй Садам Хусейн стаў ахвярай подлага здрадніцкага нападу ў чацвер вечарам, падкрэсліў прадстаўнік прэзідэнта. Раней іракскае тэлебачанне паведамляла пра тое, што Удэй атрымаў агнястрэльнае раненне. Аднак пра гэта не паведамляецца ні ў заяве прадстаўніка прэзідэнта Хусейна, ні ў афіцыяльным паведамленні іракскага інфармацыйнага агенцтва.

### «РУКІ ПРЭЧ» АД АФГАНІСТАНА?

Арганізацыя «Ісламская канферэнцыя» заклікала ўсе дзяржавы свету спыніць пастаўкі ўзбраенняў і боепрыпасаў афганскім групоўкам, якія ўцягнуты ў канфлікт. Паважаць суверэнітэт, тэрытарыяльную цэласнасць, незалежнасць, ісламскі характар Афганістана і не ўмешвацца ў яго ўнутраныя справы. Пра гэта гаворыцца ў заключным камюніке міністраў замежных спраў, прынятым пасля заканчэння работы ў Джакарце іх чарговай нарады.

### ЗЛАЧЫНЦЫ ЗНІШЧЫЛІ ЦЭЛУЮ ВЁСКУ

Як адно з самых страшных і крывавых злачынстваў на глебе нацыянальнай розні расцанілі ўлады Індыі забойства ўчора невядомымі злачынцамі на захадзе штата Трыпура 23 мірных жыхароў. Паводле даных МУС рэспублікі, банда ўзброеных баевікоў аднаго з мясцовых плямён ажыццявіла раніцай напад на невялікае паселішча і расправілася з усімі яго жыхарамі. Вёска згарэла датла. Злачынцам удалося ўцячы.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку глыбока смуткуе з выпадку заўчаснай смерці міністра спорту і турызму Уладзіміра Мікалаевіча РЫЖАНКОВА і выказвае спачуванні родным і блізкім нябожчыка.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

**Чым завяршыліся для занадта даверлівых жыхароў Прынёманскага краю**

# «муніцыпальныя дарожныя работы ў Аўстрыі» і «ўборка цытрусавых у Іспаніі»

У лютым мінулага года ў рэкламнай газеце з'явілася даволі інтрыгуючая (прынамсі, для пэўнага кола чытачоў) аб'ява. Гродзенскі кааператыў «Каларыт» прапаноўваў свае паслугі ў працаўладкаванні за мяжой. Рэзананс атрымаўся проста каласальны. Адразу ж у офіс фірмы (размешчаны ў адной з кватэр па вуліцы Даватара, непадалёк, па іроніі лёсу, ад абласной пракуратуры і раённага суда, дзе потым разглядалася гэта справа) пацягнуліся дзесяткі людзей, прычым не толькі з Гродна, але і са Слоніма, Мастоў — маладых і не вельмі, з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Сярод жадаючых пашукаць лепшай долі на Захадзе былі рабочыя, студэнты, медыкі, педагогі і нават прадстаўнікі такіх не вельмі традыцыйных прафесій, як харэограф ці супрацоўнік прыватнай аховы.

Напэўна, матэрыяльнае становішча некаторых з гэтых людзей было, па нашых мерках, не вельмі ўжо і гаротным, аднак хацелася жыць яшчэ лепей. Большасць жа кліентаў кааператыва і сапраўды заслугоўвалі спачування, паколькі ім, пакуючы чамадан, не трэба было пісаць начальству заяву аб звальненні — беспрацоўныя. А тут быццам глыток вады ў пустыні — выратавальная рука, працягнутая камерсантамі. Таму не дзіўна, што ў «Каларыт» прыходзілі нават сямейныя пары.

Як і любая сур'ёзная справа, атрыманне кантракта для працаўладкавання за мяжой прадугледжвала некалькі этапаў. Першы — знаёмства з кліентамі. Жаночы персанал фірмы (сакратар-рэферэнт, справавод і менеджэр) цікавіўся, у якой краіне (Іспаніі, Аўстрыі, Францыі, Галандыі ці Грэцыі) чалавек хацеў бы папрацаваць і па якому профілю, кожны кліент запаўняў анкету. Акрамя таго, неабходна было пісьмова адказаць на шэраг пытанняў, у прыватнасці, адносна сваёй расавай прыналежнасці, здароўя, захапленняў і нават колеру скуры, вачэй і валасоў. Здароўе, як правіла, лічылася выдатным. А сярод захапленняў часцей за ўсё фігуравалі любоў да кнігі і рыбалка. Хаця не толькі гэта. Адзін кліент напісаў, што збірае лекавыя травы, і можа па гэтай прычыне яго ўзялі садоўнікам у Францыю. Другі чалавек паведаміў, што вывучае псіхалогію. Забягаючы наперад, можна адзначыць, што цяпер у яго ёсць канкрэтны матэрыял для аналітычных разважанняў, прычым з уласнага вопыту.

Але вернемся ў офіс «Каларыта». Пасля знаёмства з кліентам звесткі аб ім быццам «кідаліся» на камп'ютэр і неўзабаве паступала канкрэтная інфармацыя. Для аднаго камп'ютэр выбраў муніцыпальныя дарожныя работы, для другога — уборку цытрусавых, для трэцяга — працу рэпетытарам і гувернёрам... Пасля гэтага чалавеку трэба было прайсці медкамісію, сфатаграфавацца і, атрымаўшы гатовы кантракт, здаць загранпашпарт для афармлення візы ў аўстрыйскім пасольстве ў Маскве.

На першы погляд, кантракты выглядалі даволі пераканаўча — дакладна распісаны правы і абавязкі беларускіх грамадзян, замежных работадаўцаў, усё гэта падмацавана пячаткай аўстрыйскай фірмы «Вест Арбейт Сервіс». Праўда, пры больш уважлівым знаёмстве з гэтымі паперамі два гродзенцы вырашылі не рызыкаваць. Іх насцярожыла тое, што ў «Каларыце» не здолелі задаволіць іх просьбу аб перакладзе нямецкага экземпляра. Да таго ж, у дакументах адсутнічалі адрасы работадаўцаў. Аднак іншыя кліенты такіх «дробязей» у кантрактах не заўважылі. Відаць, уся ўвага была сканцэнтравана на галоўным пункце, які датычыўся заробку. Ён, нават з улікам пэўных адлічэнняў кааператыву і расходаў на пражыванне за мяжой, выглядаў, асабліва для беспрацоўных, ну проста казачным. Скажам, за муніцыпальныя дарожныя работы ў Аўстрыі гарантавалася ў месяц як мінімум 1650 долараў. На ўборцы цытрусавых у Іспаніі можна было атрымаць 1330, 1500 альбо 1870 «баксаў». Яшчэ больш выгадна вырошчваць кветкі ў Галандыі, за гэта плацяць 2450 долараў. І ўжо зусім ашаламляльна выглядае месячны аклад садоўніка ў Францыі — ажно 3650 «зялёных». Зноў жа як мінімум.

Аднак, перш чым атрымаць валюту за працу на аўстрыйскіх вуліцах альбо ў галандскіх аранжарэях, неабходна было, само сабой, разлічыцца з айчыннымі дробязямі. На першым этапе «Каларыт» браў 130 тысяч рублёў, ці ў доларавым эквіваленце. Грошы, нават на пачатку мінулага года, не надта ўжо і вялікія. Зрэшты, як для каго. Напрыклад, для жанчыны, якая атрымлівала ў аб'яднанні «Радыёхваля» 120 тысяч рублёў, маючы дваіх непаўналетніх дзяцей і беспрацоўнага мужа, гэта сума зусім не жартоўная. Плюс яшчэ затраты на медкамісію, фатаграфію. Але асноўныя расходы чакаліся на заключным этапе, калі справа даходзіла да афармлення візы. Гэта паслуга каштавала 240 нямецкіх марак. Праўда, разлічыцца паспелі толькі тры кліенты. Бацькі аднаго з іх, каб забяспечыць сыну выгадны кантракт, спецыяльна прадалі свой «Масквіч». У другога чалавека дойчмарак не было, і фірма, пайшоўшы яму насустрач, згадзілася ўзяць долары.

Верагодна, што неўзабаве «Каларыт» атрымаў бы валюту і ад дзесяткаў іншых кліентаў, але перашкодзілі падатковыя органы. У выніку занадта даверлівых жыхароў Прынёманскага краю запрасілі не ў рэйс па маршруту «Гродна—Вена», а ў міліцыю, пасля чаго ўсе кантракты лопнулі як мыльныя бурбалкі. Калі ў каго і засталася нейкая надзея, дык толькі на тое, каб вярнуць свае кроўныя. Горка, крыўдна, але і заканамерна. Справа ў тым, што ліцэнзіі на права працаўладкавання людзей за мяжой у фірмы «Рогі і капыты», прабачце, «Каларыт» не было. Афіцыяльная справаздачнасць адсутнічала. Касавыя ордэры, якія выдаваліся кліентам, не былі зарэгістраваны ў падатковай інспекцыі, а грошы накіроўваліся зусім не на рахунак фірмы і не ў пасольства Аўстрыі.

Самы час пазнаёміцца з шэфам кааператыва Чэславам Гібінскім. У гэтай фірме, створанай дзеля работ па мастацка-дэкаратыўнаму афармленню жылых, вытворчых памяшканняў і зон адпачынку, ён амаль з самага пачатку. Быў майстрам, два гады назад стаў дырэктарам. Двойчы судзімы. З 1983 года знаходзіцца на ўліку ў наркалагічным дыспансеры з дыягназам «хранічны алкагалізм другой стадыі». Паводле матэрыялаў следства, Гібінскі амаль «не прасыхаў», у тым ліку і на рабочым месцы.

Другога «спецыяліста» па супрацоўніцтву з краінамі Заходняй Еўропы, Валерыя Санько ў саставе кааператыва наогул не было. Тым не менш ён усюды фігураваў як старшы менеджэр. Так яму хацелася — каб салідна выглядаць у вачах кліентаў.

У кантактах з заходнімі работадаўцамі, па словах спадара Гібінскага, таксама ўдзельнічалі нейкія палякі, якія быццам бы забіралі анкеты на кліентаў, «праганялі» іх праз камп'ютэр і дастаўлялі ў Гродна кантракты. А што датычыць аўстрыйскага боку, дык пячатка фірмы «Вест Арбейт Сервіс», якой былі замацаваны ўсе працоўныя пагадненні, была знойдзена ў офісе «Каларыта».

Як жа траціліся грошы кліентаў? Нейкія крыхі перападалі дзяўчатам, якія афармлялі анкеты, выдавалі людзям «касавыя ордэры» і накіроўвалі іх на медкамісію. Аплачваліся арэнда офіса, тэлефон, рамонт пішучай машынкі. Галоўны ж куш даставаўся асабіста начальству, якое мела намер разгарнуць гандлёва-закупачную дзейнасць. «Пакруціўшы» грошы кліентаў, потым можна было б тое-сёе і вярнуць. Такая магчымасць прадугледжвалася пры «наяўнасці прычын, якія перашкодзілі атрыманню аўстрыйскай візы». Ну а грошы кліента, які, маўляў, не прайшоў камп'ютэрны адбор, увогуле не вярталіся. Такія былі правілы гульні.

На момант, калі дзейнасцю «Каларыта» зацікавіліся кампетэнтныя органы, ён паспеў «зарабіць» каля 11 мільёнаў рублёў. Яшчэ б трохі часу — і асноўная сума, як мінімум 190 мільёнаў, таксама трапіла б у «касу». 90 кліентаў для гэтага ўжо, як гаворыцца, саспелі. У працэсе следства фірма вярнула тром кліентам валюту. Гібінскі абяцаў разлічыцца і з астатнімі пры ўмове, што не пасадзяць у камеру. Але гэта было ўжо немагчыма. У выніку шэф «Каларыта» «загрымеў» у папраўча-працоўную калонію строгага рэжыму на 10 гадоў і 6 месяцаў. А яго паплечнік Санько даў драпака ў невядомым напрамку.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

ЗДАРЭННІ

## ПЕРАДНАВАГОДНІЯ «СЮРПРЫЗЫ» ЗЛАДЗЕЯЎ

Такая ўжо ў людзей завядзёнка: загадзя рыхтавацца да сустрэчы Новага года, набываць падарункі для дзяцей, думаць пра прыгажуню-ёлку. І няўцям ім, што перашкодай на шляху да гэтых прыемных хвілін могуць стаць зламыснікі-зладзюгі.

Менавіта так здарылася ў вытворчым аб'яднанні «Беларусьгеалогія». Туды прафсаюзныя работнікі прывезлі чатырнаццаць скрынак навагодніх падарункаў і на выхадныя дні пакінулі іх пад замком у адным з памяшканняў. А нехта праз незачыненае акно залез туды і ўкраў усе да апошняй скрынкі.

І калі ў дадзеным выпадку быў учынены замах на дзіцячую радасць, дык у другім — на надзею дарослых павесяліцца на Новы год ад душы: у вёсцы Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага раёна зладзеі разабралі столь у магазіне і вынеслі адтуль шэсць скрынак каньяку і дзве — гарэлкі і віна.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## САБАКА-ЗАБОЙЦА

І хто б мог падумаць, што вясковы бобік пенсіянеркі С. Рудэнка такі воўчы характар мае, што можа знянацку напасці на чалавека і загрызці яго? Тым больш, што з выгляду ён рахманы, спакойны.

Відавочна, менавіта апошняя акалічнасць і сыграла самую трагічную ролю ў жыцці пенсіянеркі — сваячкі гаспадыні сабакі — Л. Рудэнка. Ішла яна ў госці да яе, задумалася аб чымсьці. На двары сустрэў старэнькую бобік, прапусціў да ганка, а потым ірвануўся з ланцуга і ўчапіўся вострымі зубамі ў нагу. І шкуматаў да таго часу, пакуль не пракусіў вену. Калі сабаку адагналі ад старой палкай і выклікалі «хуткую дапамогу», было ўжо позна: бабуля на месцы сканала ад празмернай страты крыві.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**
**Рэчыцкі раён.**

## Віншаванні

*Віншую з днём нараджэння дарагога сябра Аляксандра КАВАЛЯ. Жадаю здароўя, шчасця, радасці.*

***Афанасік Людміла, г. Баранавічы.***

*ШКЛЯРЫКУ Аляксандру з г. Мінска спаўняецца 40 гадоў. Віншуем ад усёй душы. Жадаем здароўя, усіх зямных даброт, поспехаў.*

***Матуля, брат, сястра і іх сем'і.***

*Сардэчна віншуем Леакадзію Пятроўну ВАЙЦЯХОВІЧ з в. Паніззе з днём нараджэння. Моцнага здароўя, радасці, шчасця, дабрабыту. Не старэй!*

***Сям'я Шчасных.***

*Віншуем з днём нараджэння і 46-годдзем сумеснага жыцця нашых бацькоў Ніну Нанаўну і Уладзіміра Пятровіча ЗУЕВЫХ з г. Мінска. Жывіце доўга, моцнага вам здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту і ўзаемаразумення.*

***З павагай дочкі Зінаіда, Святлана, унук Сяргей, г. Мінск.***

*Віншуем з днём нараджэння любую жонку і матулю Лідзію Іванаўну ДЗЕДАВЕЦ. У гэты светлы дзень жадаем здароўя, шчасця, дабра і доўгіх гадоў жыцця.*

***Муж, дзеці, унукі, в. Антонаўка.***

*Віншуем дарагую Юлію Антонаўну ШУКАЛЕВІЧ з Мілашэвіч з днём нараджэння. Жадаем весялосці і бадзёрасці на ўсё жыццё. Цалуем.*

***Сястра Вольга, Габрыкава, Болсун, г. Гомель.***

*Паважаная Алена Нікадзімаўна! Віншуем вас з 55-гадовым юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.*

***Калектыў работнікаў дзіцячага сада № 1, г. Ляхавічы.***

## СЁННЯ

**МЕСЯЦ**
**Маладзік 10 снежня**

**ІМЯНІНЫ**
**Пр. Навума, Філарэта.**
**К. Яна.**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, часам невялікія ападкі, пераважна снег, на асобных участках дарогі галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Віцебску — 3—5, Магілёве — 2—4, Гродне, Мінску — 1—3, Брэсце, Гомелі — 0—2 градусы марозу.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, 15-га ўначы пераважна без ападкаў, месцамі на дарогах галалёдзіца. Тэмпература 15-га ўначы — 4—9, удзень — 0—5, 16-га на працягу сутак — 1—6 градусаў марозу.

## ПЫТАЛЬНІК

### КАЛІ ЧАРНОБЫЛЕЦ СПРАВІЦЬ НАВАСЕЛЛЕ?

***Я, перасяленец-чарнобылец, хачу ведаць, чаму маёй сям'і не толькі не выдзелілі кватэру, але нават не паставілі мяне ў чаргу на яе атрыманне?***

**А. БЫЧКО,** Дзятлаўскі раён.

Тое, што людзі, якія пацярпелі ад чарнобыльскай бяды, на сённяшні дзень застаюцца без свайго пастаяннага прытулку, зразумела, вельмі прыкра. У дадзеным выпадку, як адказвае намеснік старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта В. Чорны, пасля разгляду заявы А. Бычко ў Дзятлаўскі райвыканком у кастрычніку накіравана пісьмо з просьбай сумесна з яе аўтарам вырашыць пытанне пастаноўкі яго сям'і на чаргу для паляпшэння жыллёвых умоў згодна з арт. 18 п. 4 Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», і вызначыць населены пункт для будаўніцтва жылля. А будаўніцтва кватэры для гэтай сям'і, як інваліда па арт. 18 вышэйуказанага закона, прадугледжана ў праекце тытульнага спіса аб'ектаў на 1997 год, узводзімых за кошт сродкаў, накіраваных на ліквідацыю вынікаў катастрофы на ЧАЭС па Гродзенскай вобласці.

**P.S. Як бачна, захады па выпраўленню складанага становішча з жыллём зроблены, але адно застаецца невядома: калі ж чарнобылец зможа справіць наваселле?**

### «ХРУШЧОЎКА» — НЕ КВАТЭРА?

***Паважаны «Пытальнік»! Я ўсё жыццё з сям'ёй пражыла ў двухпакаёвай «хрушчоўцы», але так і не змагла зразумець, каму ў галаву магло прыйсці будаваць для людзей такія сабачыя будкі. Бо будавалі ж у сталіцы і нармальныя кватэры...***

**І. Г. ДОЎНАР,** г. Мінск.

Сапраўды будавалі. Але да вайны. У 30-я гады ў рэспубліцы праектаваліся толькі дамы з вялікімі кватэрамі: трохпакаёвыя кватэры складалі 50—60 працэнтаў ад агульнай колькасці, чатырохпакаёвыя — 10—20, а на долю двухпакаёвых прыпадала не больш як 30 працэнтаў. Часта гэтыя суадносіны змяняліся на карысць чатырохпакаёвых кватэр, колькасць якіх даходзіла да 50 працэнтаў.

Затое пасля вайны перад будаўнікамі былі пастаўлены зусім іншыя задачы: будаваць хутка і многа. У 1955 годзе ўрадам былі прыняты дзве пастановы: «Аб мерах па далейшай індустрыялізацыі, паляпшэнню якасці і зніжэнню кошту жылля» і «Аб ліквідацыі празмернасцей у праектаванні і будаўніцтве». «Празмернасці» былі ліквідаваны: адбылося змяншэнне сярэдніх памераў жылплошчы з 55—60 кв. м да 40 кв. м, паніжэнне вышыні жылых памяшканняў, а таксама скарачэнне падсобных плошчаў. Дыферэнцыяцыя тыпаў кватэр цяпер выглядала наступным чынам: 20—30 працэнтаў ад колькасці будуемых кватэр складалі аднапакаёвыя, 45—55 — двухпакаёвыя і 20—30 працэнтаў — трохпакаёвыя кватэры.

Але па-сапраўднаму масавае будаўніцтва тыпавых жылых дамоў пачало развівацца з 1958 года. Менавіта тады народ і пачаў засяляцца ў сумна вядомыя «хрушчоўкі». Толькі з 1960 па 1970 год у рэспубліцы было пабудавана каля 20 млн. кв. м жылой плошчы, г. зн. у 3 разы больш, чым за папярэдняе дзесяцігоддзе.

А ў 1969 годзе выйшла новая пастанова ўрада «Аб мерах па паляпшэнню якасці жыллёва-грамадзянскага будаўніцтва», дзе аднастайнасць і непрывабнасць жылой забудовы былі падвергнуты крытыцы.

### КОЛЬКІ Ў МЕСЯЦ ВЫПЛАЧВАЮЦЬ НА ДЗЯЦЕЙ?

***Хацелася б ведаць, якая ўсё ж сума штомесячнай грашовай дапамогі на адно дзіця? І ці праўда, што зараз яна павялічана?***

**(З пісьма ў рэдакцыю.)**

Праўда, так яно і ёсць на самай справе. **Начальнік аддзела сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай абароны В. ЛАДЫЖАНКА,** спаслаўшыся на ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 верасня 1996 г. № 360, адказвае:

— Памеры штомесячных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, з 1 кастрычніка павялічаны на 50 працэнтаў.

Цяпер сума такой выплаты на дзяцей ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў складае 90.000 рублёў. Значыцца, паколькі аўтарка пісьма атрымлівае палову дапамогі, дык памер штомесячнай сумы на яе дзіця складзе 45.000 рублёў.

### ПОСУД «ЦЭПТЭР» ЗУСІМ БЕЗДАКОРНЫ?

***«Паважаны «Пытальнік»! Неаднаразова чула па радыё рэкламу посуду фірмы «Цэптэр». Калі верыць ёй, дык гатаваць у гэтым посудзе можна без вады, солі і тлушчу, проста як у казцы «Каша з сякеры». Але я чула, што быў нейкі скандал, звязаны з гэтым цуда-посудам. Можа, вам пра гэта што-небудзь вядома?***

**Галіна ЛЕПЕШАВА,** г. Барысаў.

Недавер нашага спажыўца да ўсялякіх заходнееўрапейскіх цудаў прагрэсу, асабліва калі яны каштуюць па нашых паняццях, шалёныя грошы, зусім зразумелы. Але асабліва горка расчаравацца ва ўжо зробленай пакупцы. Таму па неабходную інфармацыю мы звярнуліся ў Мінскае таварыства спажыўцоў (МТС), дзе нам пацвердзілі, што ім сапраўды давodзілася вырашаць праблемы з такой вядомай фірмай, як «Цэптэр». Па скарзе спажыўца замежнае прадпрыемства «Цэптэр» выступала адказчыкам у судзе Цэнтральнага раёна сталіцы. Набыты спажыўцом посуд аказаўся няякасным. Праведзеная экспертыза НВА «Прагрэс» паказала, што ўтрыманне ў ім хрому перавышае дапушчальныя нормы, устаноўленыя стандартам, і яго нельга выкарыстоўваць па назначэнню. Згодна з прэтэнзіяй юрыста МТС, фірма выплаціла спажыўцу кошт тавару (без кампенсацыі ўрону ў сувязі з ростам спажывецкіх цэнаў), але не кампенсавала маральны ўрон. У сувязі з чым таварыства было вымушана падаць у суд, які вынес рашэнне аб спагнанні 3,9 млн. рублёў, з іх 2 млн. рублёў — за нанясенне маральнага ўрону. Наступная работа па скаргах спажыўцоў на посуд «Цэптэр» выкрыла і іншыя недахопы. Так, напрыклад, было выяўлена, што далёка не кожная партыя посуду, што паступае на беларускі рынак, праходзіць неабходную экспертызу.

### ЛЯЧЫЦЕСЯ НА ЗДАРОЎЕ!

***Чула па радыё, што недзе ў Мінскай вобласці хворых лечаць метадам разгрузачнай дыеталогіі. Ці не маглі б вы падказаць адрас гэтай медустановы?***

**(З пісьма ў рэдакцыю.)**

Ахвотна выконваем гэту просьбу. Як паведаміў **начальнік Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя П. Міхалевіч,** лячэнне метадам разгрузачнай дыеталогіі праводзіцца ў Рэспубліканскім цэнтры дыеталогіі і разгрузачна-дыетычнай тэрапіі, размешчаным у Мінскай абласной клінічнай бальніцы. Яго дакладны адрас: Мінскі раён, пас. Лясны. Кіраўнік гэтага цэнтра — Іван Нікіфаравіч Бранавец.

### ЗАГРАНПАШПАРТ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ БЯСПЛАТНЫ

***Паважаная рэдакцыя «Звязды»!***

***Адкажыце, калі ласка, на пытанне ці прадугледжаны пры афармленні загранпашпарта льготы дзецям-сіротам, якія знаходзяцца пад апекай? І яшчэ: не маглі б вы падказаць адрас Беларускага дзіцячага фонду...***

**М. С. РУДЗІНСКАЯ,** Гомельская вобл.

На жаль, наша чытачка не паведаміла ўзрост свайго дзіцяці. Справа ў тым, што са снежня дзецям да 16 гадоў пры выездзе за мяжу будуць выдавацца агульнаграмадзянскія пашпарты новага ўзору. Для гэтага будзе дастаткова прад'явіць даведку, якая пацвярджае выезд за мяжу. За фатаграфію для дакумента вам заплаціць усё ж давядзецца, а вось штамп прыгоднасці пашпарта для шматразовых выездаў ва ўсе краіны свету, які цяпер прастаўляецца выключна тэрмінам на 5 гадоў, усім дзецям да 16 гадоў будзе ставіцца бясплатна.

Што датычыцца другога пытання, то Беларускі дзіцячы фонд знаходзіцца па адрасу: 220029 г. Мінск, працп. Ф. Скарыны, 31, тэл. 36-62-67.

### МАЛІНА ЗДАРОЎЮ НЕ ШКОДЗІЦЬ

***Паважаны «Пытальнік»! Наша сям'я ўжо некалькі гадоў ужывае ў якасці чаю сцёблы лясной маліны. Ці не шкодныя яны пры пастаянным ужыванні для здароўя?***

**З павагай сям'я ПІСКАРОВЫХ,** г. Паставы.

Сцябло маліны валодае невялікім жарапаніжальным эфектам, але пастаяннае ўжыванне малінавай гарбаты ніякіх процілаказанняў не мае. Усё ж раім вам звярнуцца да вашага лечачага ўрача — магчыма, у вас ёсць нейкія індывідуальныя асаблівасці, з-за якіх можа ўзнікнуць нечаканая рэакцыя.

**Падрыхтавалі Іван БРАЛКА, Надзея НІКАЛАЕВА, Яна САВІЦКАЯ.**

СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ

## Алесь КАМОЦКІ:

# «Трэба ўглядацца ў тое, што робіш»



**Аўтар і выканаўца ўласных песень Алесь Камоцкі любіць садзіць дрэвы, перабудоўвае сваю «хрушчоўку»- аднапакаёўку, і нядаўна стаў бацькам цудоўнага сына. Здаецца, што найбольш важныя этапы чалавечага жыцця пройдзены, па нашых магчымасцях. Вось толькі застаецца высветліць, як яны ўплываюць на творчасць? Ці, можа, гэта яна сама выбірае, варта ці не ўпісвацца ёй у жыццё кожнага канкрэтнага чалавека, вырашае, да каго прыходзіць. Абранне творчасцю — справа тонкая, на першы погляд зусім несправядлівая. Вось пра гэта мы і паразважаем з чалавекам, які заслугоўвае менавіта сваіх песень.**

**— Адкуль да вас прыходзяць песні?**

— Я не ведаю, але толькі не з галавы. Яны самі з'яўляюцца. Галава, асабліва зараз, жыве іншым. Галава рамонтам кватэры жыве і ўсякімі такімі справамі. А песні прыходзяць перыядычна. Бывае, увогуле няма песень. Можа, яны бяруцца з надвор'я, можа, з пары года ці з жыццёвых абставінаў. А калі песні з галавы ідуць, атрымліваецца не аўтарская плынь, а індустрыя, якая ўжо ў нас наладжваецца. Праўда, на Беларусі пакуль марудна.

**— Гэта добра ці дрэнна, на ваш погляд?**

— Не, яна ўсё роўна разаўецца і ў нас.

**— Тады, магчыма, згубіцца нешта іншае?**

— Адно аднаму не перашкаджае. Існуе такая песня — і існуе іншая песня. Вытворчасць песень таксама можа быць добрай. У Маскве ці Піцеры добрыя робяць песні. Тое, што пішуць барды, — не дзеля забавы. У нашых песнях патрэба то ўзнікае, то няма такой патрэбы. Вось як у 60-я гады бардаўская песня хлынула на вуліцы, на плошчы. Цяпер яна зноў залезла на кухні. А можа, у наступным стагоддзі зноў падымецца аўтарская песня, ужо зараз болей слухаюць тыя ж рамансы, бо песні, якія нам дастаюцца з вытворчасці, хутка прыядаюцца. А ўсё роўна хочацца чагосьці для душы. Не можна доўга жыць без натуральных прадуктаў. Так і тут.

**— Калі меркаваць па вашых песнях, то ў нас амаль заўсёды лірычны настрой. Ці бываюць такія перыяды, калі хочацца пабуяніць?**

— Я то лірык, то «хнырык». А пабуяніць асабліва не хочацца. Дастаткова людзей, якія буяняць. Кожны павінен рабіць тое, да чаго душа ляжыць. Хай тыя буяняць.

**— Ці часта цяпер вас запрашаюць на канцэрты?**

— Часта, толькі займіся гэтым. І запрашэнняў многа на невялічкія канцэрты. Толькі звычайна яны не такія заўважныя — для 30, для 50 чалавек робяцца. Калі я займаўся гэтай справай шчыльней, то яны былі часта, калі-нікалі было па 2 на дзень. Апошнім часам я адмаўляюся ад большасці прапаноў, хаджу толькі на канцэрты, дзе будзе менавіта тая публіка, з якой мне зараз прыемна. Не таму, што не хачу прапагандаваць песню — проста ў мяне самога зараз такі перыяд. Пройдзе гэта, буду хадзіць нават і туды, дзе мяне не чакалі. Місіянерская дзейнасць таксама патрэбна. Проста ёсць перыяды ў жыцці чалавека, калі больш трэба заняцца сабой і давесці, удасканаліць тое, што мы можам. Нельга ўвесь час заставацца на адным узроўні.

**— Як вы растлумачыце тое, што на Беларусі даволі добра развіваецца «сацыяльная» плынь у бардаўскай песні?**

— Нармальная з'ява. Мне было цікава «пагаўкаць», калі гэта забаранялася. Зараз гэта прайшло. Але ёсць іншыя аўтары, якія паспяхова працуюць у гэтым накірунку. Сацыяльная песня — з'ява інтэрнацыянальная. Ну, а калі яшчэ спрыяюць абставіны... Толькі я ўжо знаходжуся на іншай ступені.

**— Не ўзнікала думкі выпусціць альбом сваіх песень?**

— Альбом трэба падбіраць карпатліва і доўга. Гэта робіцца гадамі. А збіць тое, што трапіла пад руку, і запісаць касету... Можна, вядома, так робяць пераважна ўсе барды: сеў, наспяваў, і пайшло. А я зараз раблю новыя аранжыроўкі сваіх песень. Некаторым не спадабалася, кажуць, не трэба было гэтым займацца. А я ўсё роўна буду. Паглядзім, магчыма знойдуцца тыя, каму спадабаецца.

**— Ці ёсць у вас самая дарагая песня?**

— А мне за іх не плацяць.

**— Не ў сэнсе кошту, а ў сэнсе — для душы.**

— «Спяць курганы цёмныя». Самая нармальная песня. Мне ў галаву прыходзіць, калі нават яна пустая. Не ведаю чаму, але так бывае. Нешта, мусіць, ёсць у ёй такое, магчыма, я ў мінулым жыцці з курганамі быў звязаны.

**— А калі б можна было спытаць вашу гітару, ёй што болей падабаецца іграць?**

— Ёй падабаецца, калі пыл з яе выціраеш калі-нікалі. Яна пылам пакрываецца, бо я дома рэдка сяджу з гітараю. А перад выступленнем перш за ўсё прыводжу яе ў парадак, ёй пэўна гэта і падабаецца.

**— Ці можа бард сёння жыць са сваёй творчасці?**

— Не, вядома... Зрэшты, я дакладна не ведаю, можа, і можна. Ёсць уменне прадаваць сябе — гэта не горшае, што здараецца ў жыцці рабіць. І калі ўмееш, то можа і атрымліваецца. У многіх ёсць вельмі добрыя творы, але яны не ўмеюць арганізаваць іх выхад на шырокую аўдыторыю. А хто навучыўся — таксама можа зрабіць з песні шлягер, хаця гэта ўжо не будзе той бард. А ўвогуле, я супраць розных класіфікацый. Ёсць людзі і ёсць людзі. А ёсць песні. Ёсць такія, што каштуюць нямала, але за іх не плацяць. А ёсць тыя, якія ўвогуле нічога не каштуюць, але прыносяць прыбытак. Пісаць песні, спяваць іх — адно, а нешта атрымліваць за іх — зусім іншая справа, яны ніяк не звязаны.

**— А была такая песня, на якой вы болей за ўсё зарабілі?**

— Я пра гэта проста не думаю, далібог. Было, давалі нейкія грошы, часам нават нармальныя. Але хутчэй бывае так, што сам у гэтыя песні болей убухаеш, калі хочаш зрабіць іх з музыкантамі. Я прыйшоў да такой высновы, што калі пачынаеш працаваць над нейкім творам, даводзіш яго да дасканаласці, працуеш над ім з многімі людзьмі, тады і атрымліваеш жыццёвы кайф. А тое, што песню потым пачынаюць пазнаваць, калі яна становіцца папулярнай, — іншае. Яна ўжо адышла ад цябе. Існуе сама па сабе, у яе сваё жыццё.

**— Памятаеце зараз самую-самую першую сваю песню?**

— Былі нейкія патугі прыдумляць нешта яшчэ ў школе, але яны нічога не далі. У нашай школе, нашым класе гэта не цанілася. У нас хакейны быў клас, усе хлопцы хадзілі гуляць у хакей, толькі я не хадзіў. Я дамоў хадзіў.

**— Вы былі прыкладным вучнем?**

— Ну, нейкім выдатнікам быў.

**— А ў жыцці заўсёды былі выдатнікам?**

— Не, абсалютна. Ва універсітэце вучыўся на «здаў — не здаў». Адзнакі мяне абсалютна не хвалявалі.

**— А адзнакі за творчасць вы самі сабе выстаўляеце?**

— Я думаю, што чалавек наўрад ці здоле ацаніць сябе аб'ектыўна. Іншыя людзі лепей бачаць і недахопы твае, і ўдачы.

**— Што ідзе ад сэрца, тое і спяваеце на канцэртах, ці спецыяльна падбіраеце рэпертуар?**

— Вядома, як Бог дасць. Я так раблю пастаянна. Ёсць «дзяжурных» песень штук дваццаць, а яшчэ што прыйдзе — тое і прагучыць.

**— А новыя песні?**

— Апошнюю песню я напісаў вясной. Неяк не да іх было, не пісалася.

**— Атмасфера, у якой апошнім часам праходзіць наша жыццё, нейкім чынам уплывае на творчасць?**

— Не, абсалютна. Бо вонкавае жыццё — палітычнае і гэтак далей — зусім не тое, што мяне захапляе. Ёсць адны людзі, якія ўжо нешта «хапнулі», ёсць другія, якім не хапіла і яны імкнуцца адабраць у першых. Ідзе перадзел, а я ў ім не ўдзельнічаю, таму ў мяне галава на сваё настроена, абсалютна незалежна ад таго, што яны там робяць. Я займаюся сваімі справамі.

**— Акрамя песень, што яшчэ вас захапляе, чым вы займаецеся з задавальненнем?**

— Ем. Увогуле, усё залежыць ад таго, які перыяд. Неяк маляваў, рэзаў дрэва. Калі-нікалі будаўніцтвам займаўся. Я шмат чым займаўся, але гэта не важна. А есці люблю, прыгатаваць смачна. Да ўсяго трэба ставіцца як да творчасці. Вось нядаўна мяне знаёмыя папрасілі дрэўцы абрэзаць у садзе, яны не ўмеюць такімі справамі займацца. А я з вялікай асалодаю рабіў, шукаў галінкі, якія можна абрэзаць, углядаўся, што лепей пакінуць. Вось творчасць! А сакрэт яе просты — трэба ўглядацца ў тое, што робіш, што побач з табою, да чаго дакранаешся рукамі — у тыя ж галінкі. Трэба ўглядацца. І так заўсёды.

**Размаўляла**
**Ларыса ЦІМОШЫК.**

СЯРОД КНІГ

# «ЗАПАЛЕННЕ ДУШЫ»

***Пад такой назвай ЗАТ «Медтраст» выпусціла яшчэ адну кніжку вершаў беларускага журналіста Уладзіміра Барысенкі. Дарэчы, прадмову да яе напісаў вядомы наш паэт і пісьменнік Янка Сіпакоў.***

***Той, хто сочыць за паэтычным узыходжаннем безумоўна здольнага чалавека, заўважае, як з кожным новым творам Уладзіміра Барысенкі расце і яго майстэрства. Адметна яшчэ і тое, што калі раней ён больш пісаў на рускай мове, то апошнім часам беларускі радок у творчасці паэта набывае пераважнае значэнне. Дарэчы, гэта найбольш адметна праявілася ў вершах з кніжкі «Пачынаю спачатку» і «Замова замоў». Менавіта іх мы і прапануем увазе чытачоў. А яшчэ разам з вамі віншуем калегу з новым творчым набыткам!***

**Уладзімір ГОЙТАН.**

*Уладзімір БАРЫСЕНКА*

## Пачынаю спачатку

*Пачынаю спачатку,*
*нават з мінус нуля пачынаю,*
*я, сівы немаўлятка,*
*сын гаротнага лёсу і краю.*
*Пачынаю я з гукаў,*
*звонкіх, ды што завуцца глухімі,*
*я шчаслівы, што слухаў,*
*што магу называць іх сваімі.*
*З першай літары —*
*маці сугучных складоў пачынаю,*
*яны ў цемры ліхтар,*
*што ў душы запалёнай трымаю.*
*Пачынаю са сказа —*
*бацькі вольнага, цёплага слова,*
*са Скарыны Францыска расказа*
*пра напеўную матчыну мову.*
*З роднай мовы*
*я другое жыццё пачынаю,*
*каб у новых умовах*
*расцвіла па ўсяму яна краю.*
*З верша гэтага*
*адраджэнне сваё пачынаю,*
*дня жадаючы светлага,*
*гукі й літары, словы і сказы*
*як жыццё я цаніць і любіць*
*абяцаю.*

## Замова замоў

*Час такі: прагнуць моды замовы,*
*не шкада ім далёкага веку*
*у надзеі— загойваюць словы*
*раны й язвы яму, чалавеку,*
*і ратуюць ад шалу й лішаю,*
*лясуна, нагавору, прысушкі,*
*злога духу, тугі і адчаю,*
*глупства й прыкрай суседу*
*мянушкі,*
*ад нячыстае сілы і ляку,*
*ад ваўка ды ад вока ліхога,*
*ад таго, каб сыночак не плакаў,*
*ды з дачушкай нічога такога.*
*Я б і гэтым, ад крыксы і ўкусаў,*
*невядомым, нат, шэптам*
*паверыў,*
*каб ад модных ілжэбеларусаў*
*(закрыжоўваюць годнасць і веру,*
*распранаюць душу на аглядкі:*
*беларускасць якой даўжынёю?*
*Ў каго ў год — тым заплешчуць .*
*у ладкі,*
*ў каго ў вечнасць — апрыснуць*
*слінюю),*
*каб ад гэтых «сыноў Беларусі»*
*мне замову знайсці ці пачуці,*
*аднаму, ці, шчэ лепш, у хаўрусе,*
*ды аддзякаваць Бога у. куце.*

29 верасня 1996 г.

У ГАСЦЯХ — «ЗОРКА»

## Міхаіл ШУФУЦІНСКІ:

# «Я проста спяваю...»

***Гэты спявак зараз — у зеніце сваёй папулярнасці. Яго песні гучаць, бадай, на ўсіх тэлеканалах і на хвалях радыёстанцый. 9 снежня Міхаіл Шуфуцінскі быў госцем Мінска, выступаў перад сталічнай публікай, якая сёлета, можна сказаць, распешчана гастролямі «зорак» рознай велічыні і таму стала даволі пераборлівай. Аднак Шуфуцінскага мінчане не абмінулі сваёй увагай.***

***Пасля канцэрта мы змаглі пагутарыць са спеваком.***



**— Міхаіл, 22 лістапада вы выступалі ў Мінску, нягледзячы на траўму нагі, на канцэрце ў падтрымку рэферэндуму, які быў ініцыіраваны Аляксандрам Лукашэнкам. Вы з'яўляецеся прыхільнікам нашага Прэзідэнта?**

— Я цесна супрацоўнічаю з фірмай «АРС», якая арганізоўвала канцэрты для гэтай кампаніі. Ідэя была такая, што Прэзідэнт і парламент павінны былі неяк разабрацца, каб не перашкаджаць народу нармальна жыць і працаваць, дапамагчы знайсці правільны варыянт. Таму быў арганізаваны канцэрт, у якім я прымаў удзел. Я ніякім чынам не збіраюся ўдзельнічаць у вашым палітычным жыцці і барацьбе.

**— Вы лічыце сваю творчасць шоу-бізнесам?**

— Тое, што я раблю, гэта не творчасць. Я проста спяваю і рады, калі гэта камусьці падабаецца.

**— Многія гады вы выступалі ў Амерыцы. У асноўным перад былымі суайчыннікамі. Скажыце, як, па-вашаму, мяняюцца густы людзей, якія перабраліся жыць туды, «за бугор»?**

— На ваша пытанне можна напісаць цэлы трактат. Гэта не мая работа. Ведаю, у эмігрантаў ёсць вялікая туга па радзіме і яны аддаюць перавагу родным песням. У нечым іх густы супадаюць з тым, што я спяваю. Ім падабаецца, яны і прыходзяць.

**— У вашых песнях вельмі выдатная аранжыроўка. Вы займаецеся ёю самі?**

— Тыя аранжыроўкі, аб якіх вы гаворыце, я рабіў даўно. Сапраўды, тады ўсім даводзілася займацца самому. Зараз на запіс альбома ці нейкай песні я прыязджаю ў Лос-Анжэлес. Там я раблю асноўную частку работы, даю ідэю, усё астатняе робяць іншыя, на іх плячах — тэхнічная работа. Калі б усё вісела на мне — я проста фізічна не змог бы выступаць з канцэртамі.

**— На сцэне вы заўсёды выглядаеце вясёлым. А вось зараз, у час нашай гутаркі, нават не ўсміхаецеся. Вам знаёмае пачуццё смутку, няўпэўненасці?**

— Вядома.

**— І як вы пазбаўляецеся ад гэтага?**

— Рэцэпта няма. Па-рознаму.

**— Скажыце, з кім вы падтрымліваеце зараз цёплыя адносіны? Я маю на ўвазе вашых калег, спевакоў.**

— Іх многа. Ну, напрыклад, Разенбаўм.

**— Мы чулі аб адваротным. Ён не раз публічна даволі крытычна ацэньваў вашу манеру выканання...**

— Гэта яго справа. Прынамсі, калі мы сустракаемся, у нас вельмі цёплыя адносіны. Ён напісаў многа песень, якія я з задавальненнем выконваю. Зусім нядаўна мы збіраліся пачаць работу над сумесным альбомам з 10—12 песень. Проста ў сувязі з занятасцю, з рознымі маршрутамі гастроляў мы пакуль не прыступілі да гэтага.

**— Скажыце, якую марку аўтамабіля вы любіце?**

— Я люблю спартыўныя машыны, але той узрост, калі людзі на іх энергічна ездзяць, у мяне ўжо прайшоў, таму ў нас два аўтамабілі ў сям'і: у мяне — «Мерседэс», у жонкі — «БМВ», сыны ж аддаюць перавагу спартыўным маркам.

**— Дарэчы, чым займаюцца вашы дзеці? Яны не збіраюцца, часам, ісці вашай дарогай?**

— Старэйшы сын закончыў універсітэт і працуе зараз у вялікай кампаніі — «Уорнер Бразерс», якая выпускае тэлевізійныя праграмы, кінафільмы. Ён працуе там, у Амерыцы, у яго свой офіс.

Малодшы сын чатыры гады па кантракту адслужыў марскім пехацінцам у ваенна-марскіх сілах ЗША. Толькі што ён дэмабілізаваўся, пасля новага года пачынае вучыцца ва універсітэце. Ён хоча стаць урачом.

**— У вас, да вашай эміграцыі, існавала група, вашы песні былі папулярнымі. Скажыце, вы не баяліся, што там, у Амерыцы, усё можна страціць — і славу, і папулярнасць? Той жа Токараў чатыры гады працаваў таксістам...**

— Я паехаў, бо мог страціць у СССР большае — свабоду, рызыкуючы страціць там, у Амерыцы, нават свабоду творчасці. Я таксама мог бы працаваць кім заўгодна, хоць ахоўнікам ювелірнага магазіна. Што датычыць славы, папулярнасці, то тыя песні ўсё роўна пераcталі б існаваць з часам. Калі б я не паехаў, то ніколі б не даведаўся: правільна я паступіў ці зрабіў памылку, аб якой буду шкадаваць усё жыццё. Тут я разбяруся сам, нічые парады мне не патрэбны. Сёння ж мне добра на сваёй радзіме — таму я тут.

**— Што вы пажадаеце тым, хто прачытае гэтыя радкі?**

— Абгрунтоўваць жыццё, кожны яго крок. Тады не давядзецца шкадаваць.

**Гутарыла Вольга РАМАНЮК.**

*ЖЫЦЦЯПІС*

# НУДА

У аўтобусе на Навагрудак людзей не многа, дыхаць можна. Хаця і горача. Пасажыры ў дрымотна-сузіральным стане і толькі вясковая жанчына з бародаўкай ля носа расказвае сваёй суседцы:

— Каб не гэта сучка, то жыў бы з ёю і сёння, — гаворыць гучна на ўвесь аўтобус.

— Дык жа кажуць, што ён піў, — сказала суседка.

— А ад чаго ж піць пачаў? Усё з-за гэтай.., — голас жанчыны не дапускае пярэчання.

Мужчына ў белай кепачцы, які сядзеў перад жанчынамі і чытаў газету, павярнуўся і паглядзеў на кабету паверх акуляраў.

— А чаму менавіта сучка?

— Калі кожнаму падстаўляе, то і сучка, — упэўнена заявіла жанчына, — а вы што, яе ведаеце? — насцярожылася яна.

— Не-е, але, мне здаецца, занадта моцна сказана, — мужчына падпіхнуў акуляры на пераноссе і ўзяўся за газету.

Пасажыры пачалі ўцягвацца ў размову.

— Многа жадаючых, але мала выбраных, — па-філасофску заўважыў мужчына з акладзістай барадой. З выгляду ці то святар, ці то мастак.

— Менавіта так! Калі мая Нора, загуляла павёў яе да кавалера. Сабака, скажу я вам... ад медалёў аж звон у вушах. Бацька — чэмпіён Германіі. І што? Усю морду яму парвала. Вяду да другога — тое ж самае, а з трэцім — каханне з першага погляду, — выказаўся мужчына ў кепцы.

— Што б вы ні гаварылі, а сучка ёсць сучка, — зрабіла заключэнне маладзіца з кусцікамі чорных валаскоў над губой.

Тут аўтобус прарваўся праз сцяну лесу і спыніўся каля Свіцязі.

У дзвярах з'явілася цэлая капа валасоў спелай пшаніцы, заплеценых на скронях у дзесяткі пасмачак, на афрыканскі манер, якія пры кожным павароце галавы, лёталі наўкол кірпатага тварыка, аголеных плеч і доўгай-доўгай шыі.

Дзяўчына ўвайшла ў аўтобус. Кофтачка-майка завязана вузлом на жываце, а шорты-плаўкі — рэшткі джынсаў не хавалі загарэлых ног. Яна павярнулася да пасажыраў спінай, крыху сагнулася і пачала разлічвацца з шафёрам.

Мужчына ў кепцы адклаў газету і схаваў акуляры. Барадаты правёў рукой па вусах і нават селянін падправіў сумку.

Было чутна, як злёгку пастуквае клапан у маторы, звініць-б'ецца ў шыбу муха ды сапе задрамаўшы пасажыр.

Дзяўчына сагнула левую нагу і з-пад правай ягадзіцы выглянула цёмная складачка.

— О-о-о-о, — цяжка, нібы ўзваліла на сябе непасільны груз, уздыхнула адна з жанчын.

— Няма ні сораму, ні..., — таксама ўздыхнула кабета з бародаўкай.

— Ужо распранулася б зусім, — сказала маладзіца.

Дзяўчына не звяртала ўвагі на рэплікі і размаўляла з шафёрам, які сядзеў як дзяцел на сухастоіне. Спіна—струна, а галава назад адкінута.

— Вочы б мае не бачылі, — зноў не ўтрымалася жанчына з бародаўкай.

— Усё, што радуе вока, — ад Бога! — разважліва адзначыў барадаты.

Жанчыны паглядзелі на яго, але падумаўшы, што ён сапраўды мае нейкае дачыненне да Бога, прамаўчалі.

У Валеўцы дзяўчына кінула шафёру «чао» і выйшла.

— Ну во, хіба ж гэта не сучка? — сказала адна з жанчын, але ёй ніхто не адказаў. З'явіліся новыя пасажыры з сумкамі, пакетамі, мяшкамі.

Мужчына ў кепцы дастаў акуляры і разгарнуў газету. Барадаты глядзеў у акно, а шафёра зноў сагнула ў крук над рулём.

Да Навагрудка было ўжо недалёка.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**



Фотаэцюд Аляксандра КАРЖА.

*36,6°*

# НАРОДНЫЯ ЛЕКАРЫ

**Усім вядома аб існаванні людзей з паранармальнымі і экстрасенсорнымі здольнасцямі. Часам ім удаецца тое, што традыцыйнай медыцыне не пад сілу. У рэдакцыю часта пішуць і прыходзяць наведвальнікі з просьбай дапамагчы знайсці адрас Васіля Конанцава, Таццяны Алтапавай, Фрыдрыха Савіцкага або некага іншага. Да гэтага часу было складана і нам, бо інфармацыі не хапае. А зараз выйшаў у свет невялічкі даведнік «Лекары Беларусі, Украіны, Расіі». Улічваючы велізарную цікавасць да гэтай праблемы, мы з ведама складальнікаў прыводзім спіс толькі некаторых народных лекараў Беларусі.**

**АЛЯКСАНДРАВА Людміла Аляксандраўна**

ЛЕЧЫЦЬ: расстройствы нервовай сістэмы, астму, язвы, дэрматыт, гінекалагічныя захворванні, венерычныя хваробы, бясплоднасць, астэахандроз, паліартрыт, экзэмы, псарыяз. Выводзіць камяні з нырак. Дзіцячыя хваробы, напрыклад, начное нетрыманне мачы, дыятэз, заіканне. Лечыць сіндром хранічнай стомленасці. Аднаўляе парушэнні ў арганізме, якія ўзніклі ў выніку пражывання ў экалагічна брудных раёнах, ачышчае ад радыяцыі. Народныя метады, асабістыя паранармальныя здольнасці. *Адрас: 211440 Беларусь, Віцебская вобласць, г. Навапалацк, вул. Маладзёжная, д. 175, кв. 4. Тэлефон: (02144) 7-03-06.*

**АЛТАПАВА Таццяна Васільеўна, САВІЦКІ Фрыдрых Маісеевіч**

ДАКЛАДНАЯ ДЫЯГНОСТЫКА дзяцей і дарослых рукамі, парады і кансультацыі па прафілактыцы і лячэнню розных захворванняў. Лячэнне практычна ўсіх хвароб. Лячэбны масаж, фітатэрапія, натурапатыя, лячэбная фізкультура і інш. *Адрас: 220100 Беларусь, Мінск-100, а/с 301. Тэлефон: (0172) 31-75-30.*

**БАГУСЛАЎСКІ Міхаіл Захаравіч**

ЛЕЧЫЦЬ: сардэчна-сасудзістыя захворванні, парушэнні артэрыяльнага ціску, хваробы апорна-рухальнага апарата, неўрозы, вегета-сасудзістую дыстанію, хваробы страўнікава-кішачнага тракта, гінекалагічныя, шчытападобнай залозы і інш. Знімае порчу, сурокі, нагаворы. Мануальная тэрапія, масаж (рукамі і прыборамі).

Доктар народнай медыцыны міжнароднай катэгорыі з правам лячэння і выкладання; парапсіхолаг, сугестолаг; псіхатэрапеўт. *Адрас: 220100 Беларусь, Мінск, вул. Багдановіча, д. 143, кв. 240. Тэлефон: (0172) 69-01-03.*

**ЛІСТРАТАЎ Валерый Уладзіміравіч**

ДЫЯГНОСТЫКА І ЛЯЧЭННЕ скурных хвароб, псарыязу, трафічных і іншых язваў, мочакаменнай хваробы, начнога нетрымання мачы і інш. Бескантактны масаж, травалячэнне, біялакцыйны спосаб. Вышэйшая адукацыя, віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў.

Дыягностыка па фатаграфіі, знаходжанне геапатагенных зон, месцаў выпраменьвання, астралогія, складанне гараскопаў. *Адрас: 220108, Беларусь Мінск-108, а/с 44. Тэлефон: (0172) 78-40-39.*

**ІБРАГІМАВА Вольга Ахмедаўна**

ДЫЯГНОСТЫКА прычыны захворвання. Вывучэнне карты нараджэння чалавека.

Астрапсіхолаг, дыпломы псіхолага, фізіка. Прайшла курс навучання астралогіі (авестыйская сістэма). Вопыт практычнай работы — 3 гады. *Адрас: 220088 Беларусь Мінск, вул. Кахоўская, д. 27, кв. 73. Тэлефон: (0172) 37-41-61 (хатні); 46-64-13 (рабочы).*

**ВАРЫВАДА Таццяна Міхайлаўна**

ЛЕЧЫЦЬ: дэпрэсіі, апантанасць і інш. Валодае паранармальнымі здольнасцямі. *Адрас: 220056 Беларусь, Мінск, вул. Панамарова, д. 3, кв. 17. Тэлефон: (0172) 69-84-66.*

**ГАРНІК Леанід Іванавіч**

ЛЕЧЫЦЬ: галаўны боль, хваробы апорна-рухальнага апарата і інш. Мануальная тэрапія. *Адрас: Беларусь, Мінск, вул. Гікалы, д. 1, паліклініка завода «Белвар», каб. 2 (прыём з 10 да 11 і з 15 да 16 гадзін). Тэлефон: (0172) 39-94-75.*

**ГАНЧАР Аляксандр Аляксандравіч**

ЛЕЧЫЦЬ: астэахандроз пазваночніка, хранічны бранхіт, галаўны боль, адкладанне солей, неўрозы. Кансультацыі, лячэбны масаж. *Адрас: 220026 Беларусь, Мінск, вул. Філатава, д. 9, 5-я гарадская клінічная бальніца. Тэлефон: (0172) 55-33-37.*

**АБРАЦІНСКІ Віктар Рыгоравіч**

ЛЕЧЫЦЬ: гінекалагічныя хваробы, бясплоднасць, галаўны боль, аблысенне і інш. *Адрас: 223610 Беларусь, Мінская вобласць, г. Слуцк, вул. Капыльская, д. 53, кв. 103. Тэлефон: (017) 253-51-72 (у Мінску).*

***Больш шырокую інфармацыю аб 70 лекарах можна атрымаць з даведніка «Лекары Беларусі, Украіны, Расіі», выдадзенага выдавецтвам «НТЦ АПІ». Па пытаннях набыцця даведніка таксама трэба звяртацца ў выдавецтва па тэлефоне (017)242-28-43.***

**АД РЭДАКЦЫІ. Мы не хацелі б, каб факт публікацыі гэтага спіса разглядаўся як рэкамендацыя звяртацца па дапамогу менавіта да народных лекараў. Проста мы ідзём насустрач пажаданням чытачоў, толькі і ўсяго. А ўжо ваша права прымаць тое ці іншае рашэнне.**

*ЁН І ЯНА*

# ДВАЙНЫ ЎДАР,

## або Ці патрэбен жанчыне доказ сілы каханага кулаком?

«... Не, што б ты ні казаў, а жонку, хаця б злёгку, для прафілактыкі, біць трэба», — даказваў свайму спадарожніку дзядзька гадоў пяцідзесяці. Яго выпадковы суразмоўца, мужчына ў акулярах, са скураным партфелем на каленях, карацей, з тых, каго просты люд заве з пагардлівай зайздрасцю «інтэлігент», ціха, але настойліва яму пярэчыў: «Што вы, як можна падняць руку на жанчыну?!» Спрэчка працягвалася ўжо даволі доўга, і пасажыры перапоўненага вагона электрычкі, якія чулі яе, з непрыхаванай цікавасцю сачылі за ёй. Прычым, як падалося, раўнадушных не было: кожны са слухачоў прымаў у гэтай размове бок аднаго з апанентаў, што праяўлялася ў зусім палярных рэпліках, якія чуліся з розных бакоў. Акрэсленай пазіцыі не было ў той вагоннай цеснаце, бадай, толькі ў мяне, таму што ў галаве, як гаворыцца, «па тэме», круціліся дзве гісторыі з амаль аднолькавым сюжэтам, але зусім процілеглай развязкай...

***

Сустрэлася нядаўна са знаёмай, якую не бачыла ўжо пяць гадоў. Пасля радасных і ўзаемных традыцыйных, але ўсё ж заўжды прыемных кампліментаў («Цудоўна выглядаеш!», «А ты ўсё квітнееш!») разгаварыліся пра жыццё асабістае. Мне асабліва новага паведаміць не было чаго, таму пасля некалькіх фраз спытала ў яе: «Ну, а як ты?» — «Я выйшла замуж за Сяргея». Здрадніцкае, сапраўды жаночае пачуццё зайздрасці злёгку заказытала: я ведала Сяргея, прыгожага статнага хлопца, памятала і іхняе юначае адданае каханне, аб якім гаварыў тады ўвесь наш лагер. Выходзіць, першае каханне і сапраўды можа быць назаўсёды? «Нашай дачушцы ўжо два гады» («Вось сапраўдная ідэальная сям'я», — падумалася). «І ўжо год мы з Сярожам у разводзе...»

Ужо пазней, седзячы ў паўзмроку невялікага бара за кавай, Таццяна, прагна зацягваючыся цыгарэтай, расказала гісторыю свайго такога непрацяглага сямейнага жыцця.

Спачатку ўсё было, як у прыгожых кніжках. Кветкі, доўгія пісьмы з прачулымі словамі. Стракатая бліскучая мітусня вяселля. Мядовы месяц у Крыме. Таццяна адчувала сябе амаль каралевай: муж толькі што не на руках насіў, нават снеданне ў пасцель прыносіў. Калі з'явілася дзіця — нарадавацца не мог, начамі ўставаў да калыскі, пялюшкі мыў, усё рабіў, каб толькі яна не стамлялася. А потым...

Аднойчы Сяргей Таццяну ўдарыў. Моцна. Па твары. Падчас недарэчнай спрэчкі. Назаўтра Таццяна панесла заяву на развод. І забіраць яе не захацела, нягледзячы на просьбы, прабачэнні, нават слёзы (калі той моцны Сяргей, якога я ведала пяць гадоў назад, — плакаў, — гэта, пэўна, сапраўды быў бязмерны адчай. — **А. Л**.). Пакуль прайшоў час для абдумвання, усе пачуцці некуды зніклі, і праз тры месяцы ў зале суда былі зусім розныя, чужыя адзін аднаму людзі. У суддзі нават не ўзнікла пытання, ці хочуць яны застацца разам.

«Разумееш, я яго сабе проста прыдумала. А той, якога я прыдумала, ніколі б ні пры якіх абставінах не падняў бы на мяне руку. А ў сапраўднага, рэальнага Сяргея хапіла духу мяне ўдарыць. І я зразумела, што жыць з ім не магу і не буду, таму што я яго зусім-зусім не ведаю і не разумею...»

Сяргей прыходзіць да дачкі ледзь не кожны дзень. Таццяна не супраць. Але ў адносінах — холад і раўнадушша. Адзін астылы, укамянелы ўжо, попел ад яркага вогнішча. У Сяргея няма дзяўчыны. Таццяна таксама адна. «Я ніколі не выйду замуж. Бо нікога больш не пакахаю, таму што баюся памыліцца яшчэ раз...»

***

Жыццё наступнай сям'і давялося даволі блізка назіраць з маленства, таму за дакладнасць фактаў, нягледзячы на даўнасць некаторых з іх, адказваю.

Наталля з Андрэем пажаніліся ва ўзросце даволі сталым: ёй было дваццаць тры, яму — дваццаць чатыры. Пажаніліся выключна па каханні, нават без мінімальнага разліку: і ён, і яна жылі ў інтэрнаце, зараблялі прыкладна аднолькава. Невядома, калі б было тое вяселле, але Наталля чакала дзіця. Калі сказала пра гэта каханаму, той не стаў мітусіцца і прапаноўваць наведаць вядома якога ўрача, а, наадварот, сказаў: «Без дзіцяці ты мне не патрэбна». Таму ажаніліся, як кажуць, без прымусу. Распісаліся проста, але вельмі рамантычна: Наталля апранула шырачэзную (была на 8-м месяцы) блакітную сукенку, сведкамі ў ЗАГС запрасілі пару, якая прагульвалася па вуліцы. Сваякі, людзі вясковыя, такую арыгінальнасць успрынялі, мякка кажучы, не вельмі прыязна. Але пасля прымірыліся: жылі маладыя дружна, Андрэй жонцы хоць і не ўсе сцежкі заступаў, але і не гаравала яна за ім.

Асабліва падабаўся зяць маці Наталлі. Увесь час казала дачцэ: «Золата, а не мужык. Спакойны, ціхі, слова наперакор не скажа, не тое што біцца». Андрэй сапраўды быў рахманы, усе крыўды ад эмацыянальнай, часам нястрыманай жонкі хаваў у сабе, і адзінае, чым мог Наталлю «пакараць», — не размаўляць з ёй дні тры.

Так пражылі яны дзесяць гадоў. Падраслі дзеці, жылі ўжо ў сваёй двухпакаёўцы, самі яшчэ не старыя, грошай калі не хапала, дык у каго іх увогуле хапае. І раптам Наталлю як з ланцуга хто спусціў. Пачала затрымлівацца на працы, перастала глядзець за домам, дзяцей, спіхнуўшы да маці на лета, наведала толькі два разы... Калі маці аднойчы завяла старую песню: «Золата ў цябе, а не мужык», — жанчына ўзарвалася: «Вось пажыла б з гэтым «золатам»! Ён жа ні на што не рэагуе. У мяне — палюбоўнік, ён пра гэта ведае, і што ты думаеш — маўчыць, сцяўшы зубы. Прыйдзе дамоў на падпітку — і зноў маўчыць. Сумна мне з ім!»

Невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б не выпадак. Наталля не начавала дома — сапсавалася машына, на якой ездзілі ў суседні горад. Андрэй усю ноч не спаў, чакаючы жонку, і калі яна раніцай пераступіла парог, з радасцю кінуўся да яе, але, убачыўшы на яе твары не пакуты, не вінаватасць, а лёгкую штодзённую ўсмешку, са злосцю адштурхнуў яе ад сябе. Наталля паляцела не на ложак, а на падлогу, зачапіўшы спінку ложка бокам. Вынікам падзення сталі дзве зламаныя рабрыны і вялізны сіняк на руцэ.

Ужо праз два тыдні Наталля казала мне, яшчэ зрэдку цяжка дыхаючы з-за паламаных рабрын: «Ты ведаеш, я толькі цяпер зразумела, як кахаю свайго мужа. Ён жа сапраўдны мужчына!»

Пасля таго выпадку прайшло тры гады. Наталля — шчаслівая маці сямейства. Дзеці ўжо зусім вялікія, у хаце парадак. Любімы муж побач. Палюбоўнік даўно кінуты і забыты. І калі маці зноў заводзіць: «Пашанцавала табе з мужам», — Наталля сціпла згаджаецца: «Яно, напэўна, і праўда...»

А Андрэй пасля таго недарэчнага выпадку на жончыны паламаныя рэбры надыхацца не мог. І да цешчы доўга не ехаў — вінаватым сябе адчуваў. І дагэтуль не зразумеў прычыны цяперашняй сямейнай ідыліі, дзівак...

***

...З цікавасцю назіраючы за спрэчкай, я даехала да патрэбнай станцыі, не прыняўшы нічыёй пазіцыі, якая з іх больш разумная і лепшая. Нават напісаўшы матэрыял, усё ўзважыўшы і абдумаўшы, так і не змагла сама сабе адказаць на пытанне: «Біць ці не біць?», якое па складанасці знайсці адказ ператварылася амаль што ў філасофска-гамлетаўскае. Я адказу так і не знайшла...

А як думаеце вы?

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

**Сёння жыллёвае будаўніцтва вызначана сярод прыярытэтных накірункаў народнагаспадарчага, сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Падставы на тое зразумелыя: разваліўся колішні болей-меней адладжаны механізм задавальнення патрэбы насельніцтва ў жыллі. Змяніўся характар эканамічных узаемаадносінаў спажыўца і дзяржавы. І тым не меней, дзяржава пакінула за сабой абавязацельства так ці іначай задавальняць найважнейшую сацыяльную патрэбу насельніцтва. Выкананне гэтага абавязацельства ў значнай ступені ці не ў першую чаргу залежыць ад стану будаўнічай галіны краіны. Таму нашым сённяшнім суразмоўцам і з'яўляецца міністр архітэктуры і жыллёвага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь Генадзь Васільевіч НАВІЦКІ.**

## Генадзь НАВІЦКІ: «Раней будавалі каб як мага танней, а сёння думаем пра эксплуатацыйныя якасці жылля...»

**— Калі гаварыць пра абываценя — а мы працуем перш-наперш на яго, на тое, каб задаволіць яго побытавыя патрэбы, — то, відавочна, нягледзячы на рэдкія вежавыя краны ў горадзе, у людзей складваецца ўражанне, што жыллё сёння не будуюць. А як аргумент — і гэта сцвярджаюць нашы чытачы — ніхто з родных, блізкіх, знаёмых не атрымлівае кватэру...**

— І вы следам гатовы папытацца непасрэдна ў міністра, а чым жа вы, будаўнікі, займаецеся... Ці не так? Вось давайце і паспрабую хаця б штрыхамі абазначыць характар сённяшняй нашай дзейнасці.

Між іншым, калі ўжо быць да канца справядлівым, будаўнічы комплекс краіны складаецца не толькі з прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўваходзяць у міністэрства архітэктуры і будаўніцтва. Міністэрства — гэта орган дзяржаўнага кіравання, які, знаходзячыся ў саставе ўрада, забяспечвае тэхнічную, нарматыўную палітыку ўвогуле будаўніцтва, незалежна ад ведамаснай прыналежнасці. Напрыклад, нацыянальная нарматыўная база (сёння гэта — Будаўнічыя нормы Беларусі) — прыярытэт ці, хутчэй, прэрагатыва нашага міністэрства. Але ў той жа час на пераходным перыядзе міністэрства з'яўляецца гаспадарчай сістэмай, калі мець на ўвазе, што ў наша злучэнне ўваходзіць цэлы шэраг розных арганізацый, розных структур.

**— Значыць, Генадзь Васільевіч, і на вашых плячах ляжыць адказнасць за ўвод новых метраў жылля, новых народнагаспадарчых і сацыяльна-бытавых аб'ектаў?**

— Ведаеце, размова не аб прысутнасці ці адсутнасці пачуцця адказнасці, як мне падаецца, павінна ісці. Змены ў эканоміцы — а за іх выступаюць і левыя, і правыя, і тыя, каму палітыка ў чыстым выглядзе проста «да лямпачкі», — патрабуюць новых падыходаў і ў сферы дзяржаўнага рэгулявання, кіравання той ці іншай галіной. Папярэдне міністэрствы ў большай ступені былі гаспадарчымі сістэмамі. Бо мелі тры наступныя адметнасці: планаванне цэнтралізаванае, фінансаванне пад гэтае планаванне, матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне.

Сёння ў нас — гэта вельмі важна ўлічваць — палова прадпрыемстваў з'яўляюцца дзяржаўнымі суб'ектамі гаспадарання. Астатнія — арэндныя прадпрыемствы, дзе кантрольны пакет належыць усё ж такі дзяржаве. Ёсць яшчэ народныя прадпрыемствы. І хаця, згодна з эканамічнымі законамі, яны выйшлі з-пад сферы ўплыву дзяржавы, усё ж такі мы з імі ў той ці іншай форме супрацоўнічаем.

Вось такія абрысы падначаленай міністэрству структуры, якая выконвае ў рэспубліцы менш за пяцьдзесят працэнтаў усяго аб'ёму будаўнічых работ. Магчыма, гэта і рэжа слых грамадства. Але ж...

**— Генадзь Васільевіч, прабачце, але ж сабралі разам, мусіць, усіх, хто якраз і будаваў раней. Цяпер жа няма ўжо тых сямі нянек...**

— Сапраўды, у наша міністэрства ўвайшлі Мінпрамбуд, Мінбудматэрыялы, Мінсельгасбуд, Мінматажспецбуд, Дзяржбуд, праектныя арганізацыі. Але ж і раней яны ахоплівалі сорак пяць працэнтаў будаўніцтва.

**— За кім, у такім разе, было і застаецца астатняе будаўніцтва?**

— Астатнія пяцьдзесят працэнтаў прыпадаюць на арганізацыі ведамаснага падначалення. Паўсюдна ёсць будаўнічыя падраздзяленні. У Міністэрстве энергетыкі, напрыклад, — «Белэнергабуд»... Так што мы зараз займаемся тымі ж самымі аб'ёмамі, праўда, у параўнанні.

**— І што гэта параўнанне азначае, калі не сакрэт?**

— Пры ўмове, што будаўніцтва знізілася прыблізна ў два разы, наша міністэрства, аб'яднаўшы, як вы гаворыце, «сем нянек», па-ранейшаму выконвае ўсё тую ж палову агульнага аб'ёму.

Заўважу, між іншым, адзін фактар, пра які звычайна не гавораць. Нас папікаюць, што будаўнікі шмат зарабляюць. Папікаюць і за тое, што ўстанаўліваем адзіныя цэны на будматэрыялы. Дык давайце з гэтым разбяромся. Што датычыць цэнаўпарадкавання, то мы далёка не для ўсіх гаспадары і дыктатары. Упраўленні капітальнага будаўніцтва райвыканкомаў і аблвыканкомаў да нас прыслухоўваюцца. Але ж многія аб'ёмы выконваюцца на дагаворных асновах з прыватнымі арганізацыямі. У такіх выпадках, як правіла, цэны для заказчыка атрымліваюцца вышэйшымі. Дзе шукаць выйсце? У развіцці канкурэнцыі. Вось адзіны шлях, у якім павінны спалучыцца два важныя для заказчыка аспекты — нізкія цэны і якасць работ. З часам, пры росце конкурсна-тэндэрных умоў, будзе, безумоўна, складвацца сітуацыя, калі дагаворныя цэны будуць ніжэй за афіцыйна ўстаноўленыя.

Але важна ўлічваць наступны момант. Кошт работ, іх якасць развіваюцца ў адпаведнасці з эканамічнай сітуацыяй. Канкурэнтаздольнасць — катэгорыя, якая існуе ў пэўных межах, у залежнасці і ад магчымасцей спажыўца. Так, якасць сёння магла б быць і вышэйшая. Але яе развіццё аб'ектыўна стрымліваецца.

**— Генадзь Васільевіч, ёсць прыклады, што будаўнічыя арганізацыі выходзяць на знешні рынак. Атрымліваецца, што няма чаго ў нас будаваць?..**

— Так, у Расіі нашы будаўнікі працуюць. І гэта добра. Па-першае, захоўваецца патэнцыял прафесіяналаў. Па-другое, усе праходзяць праз тэндэр. Перамога ў ім — свайго роду вопыт. Тая выдатная школа, без якой няма чаго на рыначныя змены і настройвацца. А што датычыць таго, ёсць ці няма работы ў Беларусі, то праблема ж не ў гэтым, зразумела, а ў фінансаванні.

Наступны крок — удзел у тэндэрах на заходнім рынку працы. Асобныя рабочыя будуюць і ў Польшчы, і ў іншых краінах. І імідж беларускага будаўніка даволі высокі. Нашы людзі хутка асвойваюць новую тэхніку, даволі хутка знаёмяцца з невядомымі дагэтуль тэхналогіямі.

**— Дарэчы, наколькі ўсё ж такі выгадны для вашай галіны ўдзел у тэндэрных конкурсах, увогуле будаўніцтва за межамі Беларусі?**

— Тут трэба ўлічваць наступнае. Вытворчы патэнцыял будаўнічай сферы пераўзыходзіць тыя інвестыцыі, якія ёсць у рэспубліцы. Значыць — будаўнічы комплекс не можа быць запатрабаваны ў тым памеры, у якім быў даўно створаны і працягвае існаваць. Ды і буйнейшыя аб'екты ўжо даўным-даўно пабудаваны. А павароту паўночных рэк у нас не намячаецца. Але ж трэба захаваць патэнцыял, рабочыя рукі, даць людзям шанц зарабіць. Удзел у конкурсах — гэта яшчэ і падцягванне нашага ўзроўню. Урок зразумелы: будзем расці для конкурсу — будзем расці і ўнутры ўласнай краіны. Назад прывязём лепшае, лепшыя тэхналогіі.

Для краіны ж — зарабляннe валюты, развіццё міжнародных сувязей.

**— Вы ў нашай размове падкрэслілі, што знаходзіцеся як бы ў пераходным перыядзе. Жадаеце быць перш-наперш органам дзяржаўнага кіравання, але яшчэ застаяцеся і гаспадарчай сістэмай...**

— І нават ажыццяўляем, згодна з законам аб бухгалтарскім уліку, кантрольныя функцыі, нясём адказнасць за структуры, падраздзяленні, што ўваходзяць у міністэрства. І прымаем баланс, што таксама важна.

**— Але вось што яшчэ хацеў запытацца. Вы, як міністэрства, выконваючы і практычныя задачы, наколькі ўсё ж бераце на сябе адказнасць за тую сацыяльную і палітычную, калі хочаце, сітуацыю, што склалася з жыллём у нашай краіне?**

— Я ўмоўна падзяліў бы гэтую адказнасць на дзве часткі. Першая — палітыка дзяржавы ў сферы забеспячэння жыллём. Міністэрства самым непасрэдным чынам рыхтуе законапраекты, нарматыўную базу, што пасля дапрацоўваецца, праходзіць зацвярджэнне ў іншых эшалонах улады. А яшчэ ж міністэрства фарміруе падставы для правядзення жыллёвай палітыкі дзяржавы, падказвае і сцвярджае практычнымі крокамі шлях рэалізацыі.

Зыходзячы з гэтага і бяручы на сябе адказнасць, мы вызначаем канкрэтную прастору для дзеянняў. Зараз адной з галоўных задач міністэрства з'яўляецца стварэнне на новым этапе новых адносінаў, высокаэфектыўнай сістэмы кіравання якасцю жылля. І ёсць ужо першыя станоўчыя вынікі — пасёлак на Віцебшчыне, іншыя аб'екты. Адметнасць іх не толькі ў эстэтычным выкананні, а ў тым ужо, што выявілася функцыянальная якасць.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— У пасёлку, што пабудаваны ў Віцебскай вобласці, цеплаахоўныя якасці сцяны, акна патрабуюць у два разы меней паліва. Гэта ж велізарны крок наперад! А яшчэ ж трываласць гэтых дамоў, дзякуючы чарапіцы, штучнаму каменю, пераўзыходзіць усе нашы ўяўленні. Вечныя дамы пабудаваны! Раней будавалі, зыходзячы з аднаго меркавання — каб як мага танней. А сёння думаем пра эксплуатацыйныя якасці.

**— Але ж грошы — і раней гэта ўплывала, і зараз, відаць, таксама. Многія гатовы пайсці на спрашчэнне дзеля аднаго: каб толькі хутчэй пабудаваць, хутчэй займець дах над галавой. Любы дах, няхай сабе і шыферны. Жыллё патрэбна людзям сёння...**

— Вы здзівіцеся, але так яно на самай справе... Новыя дамы ненашмат даражэй за ранейшыя. Кошт квадратнага метра, можа, толькі на 15—20 працэнтаў большы, чым у танных дамах.

**— Усяго?**

— Так, усяго толькі на 15—20 працэнтаў. Вось і лічыце, выбірайце, які дом будаваць.

**— Генадзь Васільевіч, застаецца пажадаць усім бескватэрным жыць у катэджах з чарапічнымі дахамі ды з многімі іншымі выгодамі.**

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

---



## Суіцыд

**«Она, эта боль, была так сильна, так нестерпима, что, не думая, что он делает, не сознавая, что из всего этого выйдет, страстно желая только одного — хоть на минутку избавиться от нее и не попасть опять в тот ужасный мир, где он провел весь день и где он только что был в самом ужасном и отвратном из всех земных снов, он нашарил и отодвинул ящик ночного столика, поймал холодный и тяжелый ком револьвера и, глубоко и радостно вздохнув, раскрыл рот и с силой, с наслаждением выстрелил».**

Гэтымі словамі заканчваецца аповесць І. А. Буніна «Міціна каханне», дзе галоўны герой, зламаны першай у сваім жыцці здрадай, зрабіў апошні і самы адчайны крок. Наогул жа ў сусветнай літаратуры апісанняў самазабойстваў нямала. Відаць, звязана гэта з тым, што такая з'ява — не рэдкая ў чалавечым грамадстве, а тая магічная тайна, якую нясе ўсё звязанае з добраахвотным адыходам на той свет, заўсёды прыцягвала ўвагу людзей. Наўрад ці я памылюся, калі скажу, што кожны з нас у нейкай меры на прыкладзе знаёмых ці сваякоў сутыкаўся з праблемай самазабойства. Ды і што граху таіць, каму з нас у хвіліны вострага расчаравання ці горкай крыўды не прыходзіла ў галаву гэта трагічная думка?

Успамінаецца адзін выпадак. Інтэрнат, вечар, мірна п'ём з сябрам чай, глядзім тэлевізар. Нечакана гучны стук у дзверы, устрывожаныя галасы, такія ж устрывожаныя твары. Што такое? Аказалася, што на ніжнім, пад намі, паверсе адзін з маіх сяброў зачыніўся ў пакоі, нікога да сябе не пускае і, па падазрэнню суседзяў, спрабуе пакончыць з сабой. Бяжым уніз, стукаемся ў дзверы — ён мармыча штосьці незразумелае і не адчыняе. Трэба было нешта тэрмінова рабіць. Дзякуй Богу, не разгубіліся. Некалькі моцных удараў нагой у дзверы — і замок адкрыты. На самай справе, мой таварыш распаласаваў сабе вену асколкам шкла, на падлозе — лужа крыві. Спалоханы сусед-араб прыносіць бінт, накладаем тугую павязку пацярпеўшаму, аператыўна замываем кроў і, паколькі ён зусім у поўнай свядомасці, хоць і страціў крыві крыху больш за донарскую дозу (своечасова ўмяшаліся), пачынаем асцярожна выпытваць, што ж паслужыла прычынай такога неардынарнага ўчынку: нешчаслівае каханне ці ў пяты раз не здадзены экзамен?

У нашым выпадку ўсё абышлося добра, калі можна так сказаць, аднак псіхалагічная траўма пасля такога цяжкага нервовага зрыву, безумоўна, засталася. Але я хачу звярнуць увагу на адзін важны эпізод з майго кароткага аповяду: чаму мы пастараліся вельмі хутка сцерці кроў, пастараліся пры гэтым не дапусціць распаўсюджвання чутак? Адказ просты: па наяўных у нас даных, у асноўным — па тых жа чутках, усе тыя, хто зрабіў спробу самазабойства, але застаўся жывы, дастаўляюцца ў псіхіятрычную бальніцу, насільна там утрымліваюцца і на працягу двух-трох месяцаў праходзяць курс лячэння як душэўнахворыя, ад чаго і ўвогуле становяцца ненармальнымі.

Мінуў час, я даведаўся, што чуткі гэтыя далёкія ад ісціны. Аднак у грамадстве ўстойліва трымаецца думка аб тым, што ўсе самазабойцы трапляюць у дурдом. Але гэта няправільная думка. Узнікае слушнае пытанне: што ж адбываецца з тымі, хто застаўся жывы пасля спробы самазабойства?

У гутарцы з дацэнтам кафедры псіхіятрыі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Уладзімірам Барысавічам Пазняком я атрымаў адказ на гэтае і многія іншыя пытанні.

У навуцы самазабойства называецца «суіцыд». Спроба, пры якой чалавек застаецца жывы, — «парасуіцыд».

*Што датычыць парасуіцыдаў.* Калі робіцца спроба самазабойства, пры якой чалавек застаецца жыць, то ён будзе дастаўлены ў бальніцу хуткай дапамогі. Большая частка суіцыдаў у наш час робіцца шляхам прыёму медыкаментаў. У Мінску такія пацыенты трапляюць у аддзяленне таксікалогіі. Калі спроба самазабойства носіць іншы характар, то, адпаведна, пацыент можа трапіць у хірургічнае або траўматалагічнае аддзяленне. З такімі пацыентамі працуюць псіхіятры, якія ацэньваюць, ці мае месца псіхічнае расстройства. Калі выяўляецца, што для пацыента небяспека мінула, то пасля атрымання неабходнай медыцынскай дапамогі чалавек будзе выпісаны з бальніцы. Без пастаноўкі яго на які-небудзь спецыяльны ўлік... Але калі псіхіятр, які там працуе, бачыць, што крызіс не мінуў, або суіцыдныя дзеянні абумоўлены псіхічнымі расстройствамі ці расстройствам паводзінаў, тады ён можа парэкамендаваць стацыянарнае лячэнне. Але ў гэтым выпадку лячэнне можа быць прымусовым толькі ў тым выпадку, калі захоўваецца небяспека для жыцця хворага. А для таго, каб хворага гвалтоўна даставілі ў псіхіятрычную клініку, неабходна, каб ён быў небяспечны для грамадства ў выніку відавочнага псіхічнага расстройства. Рашэнне ў такім разе выносіць спецыяльная медыцынская камісія. Пры гэтым пацыент і яго сваякі могуць абскардзіць дзеянні псіхіятраў. Адсюль можна зрабіць наступную выснову: далёка не ўсе тыя, хто робіць суіцыдальную спробу, маюць шанц трапіць у псіхіятрычную бальніцу, і нават тыя, хто трапіў туды, часта выпісваюцца праз некалькі дзён стацыянарнага лячэння.

Апошнім часам шырока бытуе думка, што ў нашай рэспубліцы павялічылася колькасць суіцыдаў у сувязі з цяжкім эканамічным становішчам. На самай справе такое меркаванне зусім няправільнае. Вось некалькі лічбаў па завершаных суіцыдах, гэта значыць тых, што закончыліся смерцю, за апошнія гады ў рэспубліцы: 1993 год — 2517, 1994-ы — 2748, 1995-ы — 2725. Па статыстычных паказчыках Беларусь знаходзіцца на сярэднееўрапейскім узроўні. Таму гаварыць аб рэзкім росце суіцыдаў сама меней некарэктна. І другі момант. Колькасць суіцыдаў у краіне не заўсёды звязана з узроўнем дабрабыту насельніцтва. Гэта значыць, што нельга адназначна сцвярджаць, маўляў, калі народу няма чаго есці, то ён, даруйце, ад гэтага літаральна лезе ў пельку. Па-першае, ядзім мы пакуль нармальна. А па-другое... Па-другое, такі прыклад: у краінах Міжземнамор'я надзвычай нізкі ўзровень суіцыдаў. У Грэцыі, дзе не зусім усё добра ў эканамічным плане, мала выпадкаў самазабойстваў. У той час як у такіх высокаразвітых краінах, як Нарвегія, Швецыя, Фінляндыя, узровень суіцыдаў вельмі высокі. У чым прычына такога феномена? Няхай гэтую задачу вырашаюць псіхолагі, а для сябе зробім цалкам лагічную выснову: не варта звязваць колькасць учыненых суіцыдаў з матэрыяльным становішчам насельніцтва.

Прычын, па якіх чалавек можа адчуць жаданне пайсці з жыцця, даволі шмат.

Вось некаторыя з іх, найбольш распаўсюджаныя: цяжкая дэпрэсія, калі чалавек перастае бачыць нейкія перспектывы, або нешчаслівае каханне, адзінота, пагроза разводу, сямейная сварка. І часта не ставіцца абавязковая мэта пайсці з жыцця. Як правіла, пацярпеўшы толькі жадае змяніць адносіны да сябе навакольнага свету. На жаль, нярэдка такія спробы заканчваюцца смерцю, і ў такім выпадку амаль немагчыма вызначыць сапраўдныя матывы, якія штурхнулі чалавека на ракавы крок.

Дарэчы, сярод тых, хто ўчыняе спробы самазабойства, большую колькасць складаюць жанчыны. І, як правіла, суіцыды, звязаныя з жанчынамі, носяць менш жорсткі характар, чым з мужчынамі. З чым гэта звязана? Магчыма, менавіта з жаданнем жанчыны не столькі пайсці з жыцця, колькі прыцягнуць да сябе ўвагу блізкага акружэння. Магчыма, таму часцей за ўсё для самазабойства выбіраюцца не самыя небяспечныя сродкі, такія, як нанясенне павярхоўных раненняў вострым прадметам, ужыванне воцату ці таблетак. Мужчыны, дарэчы, выбіраюць больш жорсткія сродкі, і мужчынскія суіцыды часцей заканчваюцца смерцю.

Напэўна, не трэба забываць і той факт, што ўзровень суіцыдаў у нашай рэспубліцы цесна звязаны з колькасцю ўжываемага алкаголю. Бо большая частка здзейсненых суіцыдаў адбываецца менавіта ў стане алкагольнага ап'янення. Вось гэта, на самай справе, вельмі сур'ёзная праблема. Бо калі б удалося зменшыць алкагольную залежнасць насельніцтва ці хаця б крыху змяніць культуру спажывання алкаголю, узровень суіцыдаў у рэспубліцы мог бы значна знізіцца.

Як правіла, суіцыдальныя паводзіны адбываюцца ў перыяд часовага крызісу. Гэты крызіс заўсёды заканчваецца. Аднак у час гэтага крызісу чалавек можа прыняць рашэнне, якое закрэсліць усё яго далейшае жыццё. Але калі чалавек удала міне гэты крызіс, то потым яму будзе здавацца кашмарам тое, што ён хацеў зрабіць. Таму тым, хто знаходзіцца на грані — быць ці не быць, — ніколі не трэба спяшацца з прыняццем такога рашэння. Асноўная задача па прафілактыцы суіцыду заключаецца ў тым, каб як мага даўжэй працягнуць час ад узнікнення думкі аб самазабойстве да рашучых дзеянняў па яе рэалізацыі. Таму што ўсе крызісныя станы акрэслены ў часе, як правіла, непрацяглым. Таму, чым даўжэй вы вытрымалі гэты стан, няхай нават зусім невыносны ў нармальнай абстаноўцы, сярод людзей, тым большая верагоднасць выхаду з крызісу і, значыць, вашага выратавання.

Асабліва высокая рызыка суіцыду сярод людзей сацыяльна ізаляваных, гэта значыць адзінокіх. Таму сярод тых, хто канчае жыццё самагубствам, вельмі многа разведзеных, удоў ці ўдаўцоў.

Таксама важнае значэнне мае лячэнне псіхічных расстройстваў у псіхіятраў. Наша насельніцтва лічыць, што калі псіхіятр завёў на цябе гісторыю хваробы, то ты аўтаматычна становішся на спецыяльны ўлік і, калі спатрэбіцца, то табе не выдадуць неабходную даведку для атрымання вадзіцельскіх правоў ці для выезду за мяжу. На самай жа справе гэта далёка не так. Чалавек праходзіць лячэнне і яго ставяць толькі на кансультацыйны ўлік у дыспансеры — і толькі. Такая сістэма існуе з 1986 года, і, калі чалавек у цэлым нармальны, нейкія псіхічныя расстойствы не пагражаюць яму ніякімі ўскладненнямі ў яго грамадскім жыцці. Таму не варта баяцца псіхіятраў. Напэўна, чым аднаму мучыцца невырашальнымі праблемамі, лепш звярнуцца да граматнага спецыяліста. Зусім магчыма, такое рашэнне зменіць ваша жыццё ў лепшы бок.

**Зразумела, праблема суіцыдаў надзвычай складаная. Наконт гэтага не існуе адназначных думак, як не існуе і універсальных спосабаў для лячэння такога складанага псіхічнага расстройства. Аднак, перш чым зрабіць апошні крок, магчыма, варта пачакаць і паспрабаваць прыняць іншае рашэнне. Хто ведае, што будзе праз некалькі хвілін, гадзін, дзён? А раптам адбудзецца цуд і жыццё зноў павернецца да вас бокам, які дорыць надзею?**

**Сяргей КУЛАКОЎ.**

# ЧАЛАВЕК-ЦЕНЬ,

## альбо Той, які 35 гадоў глядзеў на спартыўныя падзеі краіны вачыма першых сакратароў ЦК

**Шчыры і інтэлігентны. Цікавы суразмоўца. Прафесіянал. Знаёмцеся: Валянцін САЗОНКІН — чалавек, які роўна палову свайго жыцця працаваў целаахоўнікам першых дзяржаўных асоб. У нашай гутарцы на тэму «Улада і спорт» Валянцін Васільевіч адкрыта рэзаў праўду-матку, і чытачы «Звязды» бадай што першымі даведаюцца пра дагэтуль невядомыя факты з жыцця «вялікіх».**

**ДАСЬЕ «ЗВЯЗДЫ»:**

*Валянцін Васільевіч САЗОНКІН. Нарадзіўся 29 лістапада 1926 года ў г. Алатыпе (Чувашская рэспубліка). Пасля заканчэння чыгуначнага тэхнікума працаваў майстрам, а затым начальнікам цэха паравозарамонтнага завода. У 1951-м закончыў школу аператыўных работнікаў. У тым жа годзе быў накіраваны ў Мінск на работу ў аддзел аховы вышэйшых дзяржаўных асоб. З 1951 па 1987 год працаваў у ахове першых сакратароў ЦК КПБ: Мікалая Патолічава (1951-1956), Кірыла Мазурава (1956-1965), Пятра Машэрава (1965-1980), Ціхана Кісялёва (1980-1983), Мікалая Слюнькова (1983-1987).*

### «Таварышы, павінен вам сказаць, што ў нашым бюро ЦК ёсць непаўнацэнныя члены...»

— Першым, да каго закінуў мяне лёс, быў Мікалай Сямёнавіч Патолічаў, — пачаў Валянцін Васільевіч «ад печкі». — Тады я малады, «неабстраляны», працаваў у ахове «прыстаўным». Прасцей кажучы, павінен быў у любы час і ў любым месцы суправаджаць шэфа, які лічыўся чалавекам сталінскай загартоўкі і прыхільнікам такога ж рэжыму. А які рэжым паважаў Вісарыёнавіч? Для апаратчыкаў адпачынак з пяці да васьмі раніцы. Вось і прыходзілася мне ці то ў дзве, ці то ў тры гадзіны ночы суправаджаць Патолічава дадому пехатой — любіў чалавек прайсціся па свежым паветры. А яшчэ больш — хадзіць на футбол. Ніводнай сустрэчы з удзелам мінскага «Дынама» «першы» не прапускаў! А ў той час, у 52-м, гульні асноўнага і дублёрскага саставаў праходзілі на адным стадыёне ў адзін дзень, але з розніцай у 15 хвілін. І атрымлівалася так, што Патолічаў выседжваў больш за тры гадзіны. Пасля найбольш цікавых перамог ён запрашаў да сябе ва ўрадавую ложу лепшых дынамаўскіх футбалістаў, галкіпера Аляксея Хоміча і трэнера Міхаіла Базаронкава, абавязкова свайго зямляка Бачурына і паўтараў: «Ну парадавалі, парадавалі дзеда».

Праз некалькі дзён усё пачыналася спачатку: Патолічаў кідаў самыя неадкладныя справы, напамінаў нам: «Па плану — футбол», пасля чаго мы традыцыйна дружна «ішлі» на стадыён. І мала таго, што мне патрэбна было ахоўваць «першага», дык барані Бог, калі ты не будзеш ведаць падрабязнасці аб сённяшнім саперніку мінчан, а шэф пажадае даведацца некаторыя статыстычныя матэрыялы. Трэба сказаць, у свой час я захапляўся футболам, таму «падапечнаму» пагутарыць са мной было адно задавальненне. Затое памятаю, як аднойчы ён кінуў пра сваіх «калег» сакраментальную фразу: «Таварышы, павінен вам сказаць, што ў нашым бюро ЦК ёсць непаўнацэнныя члены. Яны не жадаюць хадзіць на футбол...» Тады, магчыма, нехта з бюро пра сябе і круціў Патолічаву пальцам ля скроні, аднак таму было на гэта глыбока начхаць.

Ён па-ранейшаму ў перапынках матчаў прама ў ложы паказваў некаторыя футбольныя «фінты», расказваў, якія гульні бачыў у Маскве, калі вучыўся ў ваенна-хімічнай акадэміі, а ў неафіцыяльны час стараўся проста запрасіць да сябе футбалістаў альбо трэнераў і запытацца: «Ці патрэбна якая дапамога?» І дапамагаў.

Яшчэ і зараз ля сталічнага «Дынама» стаіць будынак, які тады па асабістаму распараджэнню першага сакратара быў пабудаваны і аддадзены футбалістам пад спецыяльную гасцініцу, камандзе падаравалі так званую Белую дачу ў Ждановічах, ігракам давалі кватэры ў прэстыжных раёнах Мінска. Пры ўсім тым, што ў пасляваенны час атрымаць жыллё было гэтак жа рэальна, як сёння студэнту купіць трохпакаёўку.

Калі ж Патолічаў адпачываў у Кіславодску (здаралася гэта дзесьці раз у год), то заўсёды казаў ахоўнікам: «Даведайцеся, ці не адпачывае тут хто-небудзь з футбалістаў. Калі так, то знайдзіце і запрасіце да мяне ў госці». Знаходзілі, запрашалі, частавалі... Адным словам, футбол быў пад надзейным крылом ЦК і простых балельшчыкаў. Гэта зараз прыйшоўшых на «Дынама» можна па галовах пералічыць, а раней для горада футбол — ого-го! Свята! Скажам, на гульні мінчан з маскоўскім «Спартаком» 45-тысячны стадыён не толькі быў запоўнены «пад завязку», дык яшчэ столькі ж жадаючых стаялі пад варотамі, спадзеючыся купіць білет на матч. З рук, калі пашэнціць. Набыць у касе — марная справа, бо зрабіць гэта можна было толькі па папярэдніх заяўках. Устаноў шмат, аматараў футбола таксама — вось і атрымлівалася, што колькасць заявак даходзіла да 90 тысяч. Яшчэ на падыходзе да стадыёна, на вуліцы Камсамольскай, тралейбусы блакіравалі з адным пытаннем: «Можа, будзе



лішні?..» Памятаю, тады ў Камітэце дзяржаўнай бяспекі былі спецыяльна прыкамандзіраваныя людзі, якія займаліся тым, што бралі па блату білеты і размяркоўвалі сярод сваіх супрацоўнікаў. Грэшны — сам аднойчы ў Маскве падышоў да Аляксея Хоміча (тады ён ужо гуляў за тамтэйшае «Дынама») з просьбай: «Лёша, дапамагай! Здабудзь білет хоць бы за варотамі пасядзець».

Ніколі не забуду, як сталічная публіка прымала мінскага дынамаўца Мікалая Шэвлянчыка, які забіў рашаючы мяч у вароты масквічоў. Гром авацый выклікала тады не перамога беларусаў (хоць і гэта на той час здавалася сенсацыяй), а неверагодны гол Колі. Нечакана ўпаўшы за 2-3 метры ад варот саперніка, Шэвлянчык паспеў нейкім цудам заціснуць мяч паміж каленямі, і, зрабіўшы двайны кульбіт праз галаву, закаціўся ў вароты разам з ім. Публіка адбівала далоні стоячы.

А ўвогуле «зорак» тады хапала, і ў тым, што Патолічаў любіў футбол і дапамагаў яму, лічу, нічога незвычайнага няма.

### «Ход канём» Пятра Машэрава: бац-бац — і ў «дамкі»!

— Пасля Патолічава давялося мне працаваць намеснікам начальніка асабістай аховы Кірыла Трафімавіча Мазурава. Асаблівай сімпатыі да спорту ён не выказваў, а калі чым і запомніўся, дык гэта сваёй прыхільнасцю да «лёгкай атлетыкі» (трываць не мог целаахоўнікаў і ўвесь час стараўся ад нас збегчы) і да канькоў (залівалі Кірылу Трафімавічу лёд на дачы). Ну, не ляжала ў Мазурава душа да таго ж футбола, хоць ты трэсні.

А вось з Машэравым у гэтым плане было лягчэй. Напачатку ён так зацікавіўся футболам, што нават вёў графік гульняў, складваў сваю турнірную табліцу. Памятаю, пасля аперацыі ў крамлёўскай бальніцы Пётр Міронавіч усё пытаў у палаце: «Ну які там лік? Трэба ж таблічку запоўніць». А да гэтага і на лыжах, і на коньках бегаў падчас адпачынку ў Падмаскоўі, на футбол хадзіў абавязкова.

Аднойчы былі ў Венгрыі ў службовай камандзіроўцы і вырашылі наведаць футбольны матч. Бачу, што за некалькі хвілін да гульні на бегавую дарожку вывозяць каля дваццаці людзей на інвалідных калясках, падвозяць да краю поля і тыя глядзяць сустрэчу. Мне было цікава як прафесіяналу ацаніць такі факт. Праз колькі там дзён прыехалі дадому, пайшлі на «Дынама». А калі ўрадавыя машыны заязджалі праз цэнтральны ўваход, міліцыю пастаянна хтосьці падстрахоўваў з асабістай аховы. І вось аднойчы стаю я на падстрахоўцы і пад'язджаюць да мяне чатыры чалавекі на інвалідных калясках (адзін з іх быў ваенным лётчыкам). Заўважыўшы, што я аддаю нейкія загады міліцыянерам, звяртаюцца: так, маўляў, і так, ці можна як-небудзь трапіць на стадыён?

Кажу свайму непасрэднаму начальніку: «Няхай сабе праедуць. Стануць спакойна ў кутку — нікому перашкаджаць не будуць». — «Не, — адказвае капітан. — Яны вунь «пад мухай». Сышоў мой начальнік праз некалькі хвілін, а я на свой страх і рызыку, успомніўшы Венгрыю, дазволіў-такі праехаць ветэранам вайны на футбол. Я бачыў, як у іх вачах стаялі слёзы, і не думаю, што Машэраў быў бы супраць, каб даведаўся пра гэты факт. Бо добра ведаю, як Пётр Міронавіч, даведаўшыся, што цяжка захварэў Іван Мележ, замацаваў за пісьменнікам пастаянны нумар «люкс» у крымскай гасцініцы «Советская Белоруссия».

Шахматна-шашачным аматарам рэспублікі Машэраў і ўвогуле зрабіў цуда-падарунак. Мала хто ведае, што Палац



*У цэнтры — В. В. Сазонкін.*

шахмат і шашак, які да гэтага часу існуе ў цэнтры Мінска, будаваўся зусім не для гросмайстраў — здаецца, тут павінен быў быць Палац будаўнікоў. І калі асноўныя работы ўжо амаль што былі завершаны, Машэраў вырашыў пад'ехаць туды. Прыязджае і бачыць, як рабочыя, пакідаўшы ламы і кіркі, глушаць у закутку «чарніла». Вось тады Міронавіч, які страшэнна не любіў п'яніц, і сказаў: «Працягвайце піць, але на такую справу вам будзе дастаткова і закутка. А гэты будынак няхай лепш засяляць разумныя людзі».

Не меў «зуба» Пётр Міронавіч і на футбалістаў. Быў адзін цікавы выпадак, калі ў каманды наступіў нейкі псіхалагічны спад і гульня, як кажуць, «паехала». Выклікае Машэраў да сябе ў ЦК трэнераў, футбалістаў і пытаецца: «Што здарылася? Якія праблемы неабходна вырашыць?»

Спартсмены зразумелі гэта па-свойму: ага, пачынае з пытання, а зараз пачне і «па вушах даваць», бо на «дыван» так проста ніхто не выклікае. Іван Савосцікаў тады ўстаў і кажа: «Нядаўна, Пётр Міронавіч, у Данецку мы перайгралі ў гасцях «Шахцёр» — 5:0. Нам дык весела было, а вось украінскіх хлопцаў — яны нам самі расказвалі — павезлі ў мясцовы абком партыі «на прамыўку мазгоў».

Так што, па вялікаму рахунку, мы цудоўна разумеем, чаму тут стаім, аднак хацелася б, каб вы зразумелі: футбол ёсць футбол. Ніхто не застрахаваны ад няўдач. А трэнера нашага паважаем». Машэраў здзівіўся і адказаў: «Каб я, ваш балельшчык, вам жа «мазгі прамываў?! Ну вы, хлопцы, даяце!» Пагутарылі яны шчыра, разышліся. Мне на гэты конт успомнілася некалькі гісторый. Да вайны ў нашай рэспубліцы першым сакратаром быў Панцеляймон Панамарэнка (пасля яго «забралі» ў Маскву), і працаваў у яго ахове (на хваставой выязной машыне ездзіў) Толя Сакалоў. Цудоўна гуляў у футбол! Прыязджае Панамарэнка на чарговую сустрэчу мінскіх дынамаўцаў, глядзіць матч і ўсё ахае: «Ну што гэта за гульня? Ну хто так пас аддае?!» Ахаў-охаў, а пасля не вытрымаў і нашаму трэнеру як гаркне: «Ты што, не бачыш, ёлкі-палкі, што ваш сёмы нумар зусім ногі не перастаўляе? Мой ахоўнік і то лепш гуляе... Толя! Пераапранайся, пойдзеш на левы край гуляць».

Не паверыце, аднак Сакалоў на самай справе мяняў свой касцюм на спартыўную форму і выходзіў гуляць за «Дынама». Дарэчы, мой сябар і калега Грыша Бабіч — начальнік аховы першага сакратара ўкраінскага ЦК Шчарбіцкага — расказваў, што яго шэф часам таксама добрыя «конікі» выкідваў.

Уяўляеце, партыйны бос сядзеў на стадыёне з блакноцікам, фіксаваў малюнак гульні, і ўжо перад наступным матчам трэнер кіеўскага «Дынама» Валерый Лабаноўскі падыходзіў да Шчарбіцкага і расказваў, якіх ігракоў і на якія пазіцыі ён збіраецца сёння паставіць. Здаралася, што «другі трэнер» мяняў тактыку кіяўлян.

Машэраў да такіх свавольстваў ніколі не даходзіў, а апошнія тры гады і ўвогуле неяк ціха адышоў ад спорту. Летам у Крыме ці на Чарнаморскім узбярэжжы, дзе былі дзярждачы 9-га ўпраўлення, час ад часу станавіўся на водныя лыжы, але асаблівая страсць была да палявання. Раней ён увогуле стрэльбы ў руках не трымаў, а тут як «заразу» нейкую падчапіў. Вядомая справа — госці едуць і едуць. А куды іх везці адпачываць? Зразумела, на паляванне. Мяне адразу ж прасілі ружжы прыстраляць, а Міронавіч дык той так прама і казаў: «Валянцін, давяраю толькі табе. Баюся сурочыць».

...Мабыць, і праўда суровы. Бо якраз у той дзень, калі загінуў Пётр Машэраў, мяне ў змене аховы не было.

### Асліныя хвасты ад Ціхана Кісялёва

— Пра Слюнькова казаць не буду, бо яго спартыўныя захапленні можна ахарактарызаваць двума словамі — «паляўнічы-рыбалоў», а вось пра Кісялёва варта расказаць. З Ціханам Якаўлевічам я сутыкаўся яшчэ тады, калі ён працаваў Старшынёй Савета Міністраў. Жартаўнік — страшэнны! Памятаючы выпадак з начальнікам аховы Сяргеем Штынкіным, я баяўся не так «знешніх ворагаў», як самога Кісялёва. А было вось што.

Паехала неяк кіраўніцтва ў Белавежскую пушчу на паляванне. Пагойсалі па лесе, пачалі збірацца дадому, ужо і ў машыны пахаваліся ад марозу — няма Сяргея. А той бегае, ледзь не плача. «Шапка прапала, — кажа. — Увесь гардэроб перакапаў. Як скрозь зямлю правалілася». Тут і кіраўніцтва пачало падсмейвацца: «Ну і ахоўнічак! Сваю вушанку не ўсцярог». У хлопца на марозе пот градам коціць, а Кісялёў за бакі ад смеху хапаецца: «Ладна, скажу, дзе твая шапка. Я яе ў вестыбюлі ў рукаў жаночай шубы схаваў». Нічога сабе жартачкі!

Другому таварышу з кіраўніцтва справамі Саўміна Ціхан Якаўлевіч зрабіў «падарыначак», звязаўшы таму паляўнічыя штаны вузлом ды яшчэ і вадой змачыўшы. Каб цяжэй было развязаць. Але каронны кісялёўскі жарт ведалі нямногія. На футбол з сабой ён заўсёды браў нешта накшталт аслінага хвосціка з рыбалоўным кручком. І калі хто-небудзь з прысутных сакратароў выходзіў з урадавай ложы, Кісялёў спрытна чапляў кручок з хвастом ззаду за штаны адказнага таварыша.

Я, вядома, на вуха казаў: маўляў, пардон, памацайце зад — там хвост. І калі той адварочваўся і глядзеў на мяне як на ідыёта, Кісялёў, здаралася, аж з лаўкі валіўся ад смеху, гледзячы на сваю «ахвяру». Мяне, праўда, ён чамусьці не чапаў, хоць я звычайна на паляванні і перапытваў: «Ціхан Якаўлевіч, вы часам не заходзілі ў пакой для зброі?» Ліха ведае, што яму магло ў галаву прыйсці.

У 82-м, калі футбалісты мінскага «Дынама» сталі чэмпіёнамі, Кісялёў паехаў на лячэнне ў Маскву, а я застаўся ў Мінску. Тэлефануе мне: «Перамога! Тэрмінова знайсці Малафеева (Трэнера. — **Аўт**.) і «звязаць» са мной. Хачу яго павіншаваць і запрасіць да сябе». Слова шэфа — закон.

Кінуўся я сюды-туды — няма нідзе. Кажуць: «Сезон закончыўся — усе параз'язджаліся». І ўсё ж такі «адкапаў» я Эдуарда Васільевіча. Дзе б вы думалі? Аж пад Каломенскам! — Ён туды, на маё няшчасце, да брата — дырэктара саўгаса — паехаў адпачыць. Зрэшты, з Малафеевым мы былі добрымі знаёмымі, і пра той «залаты» сезон ён расказваў вельмі цікавыя рэчы. Не хаваў, што ў 1980-м і 81-м гадах мінчане дзве сустрэчы «сплавілі» сваім маскоўскім аднаклубнікам. Нашай камандзе тады гэта нічым не пагражала, а сталічным дынамаўцам ачкі былі патрэбны як паветра.

1982-ы год. Апошнія два туры чэмпіянату. Мінчанам, каб стаць чэмпіёнамі, неабходна ў абодвух матчах перамагчы. Прычым у гасцях, ды яшчэ ў маскоўскіх «Дынама» і «Спартака»! Падыходзіць Эдуард Васільевіч за нейкі час да перадапошняй гульні да трэнера маскоўскіх дынамаўцаў Вячаслава Салаўёва і кажа: «Прыйшоў час вяртаць «крэдыты». Выйгрыш 1:0 нас задаволіць». Салаўёў вачыма так зыркнуў і ў адказ: «Ачкі вы аддавалі не пры мне, не пры мне іх і атрымліваць будзеце». Як няма, дык няма. Матч прайшоў без ніякіх там «паддавалак» і закончыўся з лікам 7:0 на карысць мінчан. Пасля гэтага выклікаюць Малафеева на пасяджэнне Цэнтральнага савета «Дынама»: «Што, табе мала было 2:0 ці 3:0? Абавязкова патрэбна было 7:0?» А ў Эдуарда Васільевіча голас высокі: «А навошта мне 2:0? Я Салаўёву сказаў (вось няхай ён тут сам пацвердзіць): 1:0 — больш не патрэбна. Ён адмовіўся. І сваё атрымаў».

Дарэчы, калі трэнеры дамаўляліся, то, дакладна ведаю ад сваіх інфарматараў, суддзі натуральным чынам купляліся. Нярэдка даводзілася размаўляць з адным чалавекам, які ў спорце быў не апошнім, калі не першым. Бывала, падыдзе да мяне на стадыёне ў ложу і ціхенька на вуха шэпча: «Усё нармальна, Валянцін Васільевіч, дамовіліся». Пытаю: «Што дамовіліся?» — «З суддзёй. Яму 50 гадоў спаўняецца, і гэта яго апошні матч, бо па рэгламенту пасля пяцідзесяці арбітр не мае права судзіць. Трэба чалавеку добры «падарунак» зрабіць «на дарожку».

«Падарунак» выбіралі ў кабінеце міністра ўнутраных спраў, а далей — справа тэхнікі. Хто трэба падыходзіў да суддзі і казаў прыкладна так: «Паважаны таварыш! Дазвольце павіншаваць вас з заўтрашнім юбілеем, пажадаць поспехаў у вашай нялёгкай працы, а таксама паведаміць, што ваш любімы сын, які зараз служыць пад Мінскам у Белпалку, пры жаданні без аніякіх праблем можа быць адпраўлены на месяц у спартыўны лагер, а затым ў дзесяцідзённы адпачынак дадому. Патрэбна зусім мала — дапамагчы камандзе». Чаму б і не? І ваўкам, і авечкам... А калі мінскія дынамаўцы выходзілі ў вышэйшую лігу на гульню з іванаўскім «Тэкстыльшчыкам» прыязджаў нават варатар-легенда Леў Яшын — правесці гутарку з суддзямі, каб «не крыўдзілі» мінчан.

Так і жылі. Ды, мабыць, і сёння жывуць па тых жа няпісаных правілах.

...З Валянцінам Васільевічам мы гутарылі яшчэ доўга. Пра доблесць, пра горыч, пра славу. Пра тое, што нават «чалавек-цень» можа быць у цяні, але павінен заўсёды заставацца Чалавекам.

**Алесь СІВЫ.**

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# МЫ ЯШЧЭ СУСТРЭНЕМСЯ

У песні «Мы яшчэ сустрэнемся» цікавы лёс. За невялікі час бытавання яна інтэрпрэтавалася выканаўцамі і цяпер існуе ў некалькіх варыянтах...

Якім жа моцным было здзіўленне Валянціны Сярых, калі летам у тэлеперадачы «Залатая ростань» прагучала яе песня «Мы яшчэ сустрэнемся». Аўтарам заўсёды прыемна, калі іх творы карыстаюцца ўвагаю артыстаў. Асабліва кранае, калі да іх звяртаецца моладзь. Сёстры Расолькі, Ірына і Віка, падрыхтавалі песню для сваіх равеснікаў — старшакласнікаў, першакурснікаў. Юныя выканаўцы творча перадалі мастацкую вартасць песні, зрабілі музыку блюзавай.

Такая інтэрпрэтацыя (ужо трэцяя!) песні спадабалася кампазітару. Валянціна Сярых напісала яе гадоў пяць таму на тэкст, які даслаў ёй Міхаіл Ясень. Словы прызнання, словы надзеі, здаецца, ірваліся з аркуша паперы, патрабавалася толькі ўсё музычна аформіць. І кампазітар даволі хутка знайшла адпаведную для іх мелодыю. Першы выканаўца гэтай песні Альберт Скараход (яго запіс захоўваецца ў фанатэцы Беларускага радыё) у сучасных рытмах, жвава, джазава перадаваў энергію слоў і музыкі.

Аднак з песнямі, як і з людзьмі, здараюцца дзівосныя выпадкі, якія істотна адбіваюцца на іх лёсе. Так было і з гэтым вакальным творам. Клавір песні «Мы яшчэ сустрэнемся» спадарыня Валянціна перадала ў Нью-Йорк для Данчыка (Багдана Андрусішына). Праз нейкі час кампазітар атрымала ад спевака касету «Мы яшчэ сустрэнемся» з запісам беларускіх песень, зробленым у 1992 годзе. Валянціна пачула яшчэ адзін варыянт песні. Данчык зрабіў яе рамансавай, шчыра кранальнай, пяшчотнай, блізкай для ўсіх узростаў. У такім выглядзе яна часта гучыць у радыёэфіры.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*ВЕРШ Міхаіла ЯСЕНЯ*

*МУЗЫКА Валянціны СЯРЫХ*

*Быў ласкавым сонечны ранак.*
*Аб такім заўсёды мы марым.*
*Мы сустрэліся нечакана —*
*Мне па сэрцы позірк ударыў.*
*Кожны з нас прайшоў міма моўчкі,*
*Быццам хтосьці быў паміж намі.*
*Ды сказалі мне Вашы вочы:*
*— Мы яшчэ сустрэнемся з Вамі!*

***Прыпеў:***
***Нікуды не дзенемся,***
***нікуды не дзенемся***
***Ад сустрэчы новай мы самі.***
***Мы яшчэ сустрэнемся,***
***мы яшчэ сустрэнемся,***
***Мы яшчэ сустрэнемся з Вамі!***

***Часта нас знаходзіць каханне***
***Там, дзе мы яго не чакаем.***
***Ды прыходзіць раптам спатканне —***
***Свой шчаслівы лёс сустракаем!***
***У натоўпе шумна і цесна.***
***Неба сінь бліскала над намі,***
***Ды сказала мне ў сэрцы песня:***
***— Мы яшчэ сустрэнемся з Вамі!***

***Прыпеў.***

*Толькі раз сустрэліся вочы,*
*Мне па сэрцы позірк ударыў.*
*Кожны з нас прайшоў міма моўчкі —*
*Аб такой сустрэчы мы марым!*
*Сіні ранак вуліцай крочыў*
*І ішлі Вы разам з сябрамі,*
*Ды сказалі мне Вашы вочы:*
*— Мы яшчэ сустрэнемся з Вамі!*

***Прыпеў.***

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА

У ёй ёсць такая своеасаблівасць — усе зашыфраваныя словы пачынаюцца на літару «З».

**Па гарызанталях і вертыкалях»** 1. Латвійскі скульптар, аўтар мемарыяла ў Саласпілсе. 2. Вядомы рускі хімік-арганік. 3. Традыцыйная беларуская страва. 4. Цяжкае злачынства супраць сваёй дзяржавы. 5. Дзяржава ў Цэнтральнай Афрыцы. 6. Замаскіравана размешчаны атрад для нечаканага нападу на праціўніка. 7. Арганізм на ранняй стадыі развіцця. 8. Мемарыяльны комплекс у Любанскім раёне. 9. Беларускі педагог, царкоўны дзеяч, перакладчык, аўтар «Буквара» і «Граматыкі». 10. Паляўнічы будан у Сібіры. 11. Вядомая руская спявачка, салістка народнага ансамбля «Расія». 12. Фатаграфічнае адлюстраванне. 13. Нябеснае цела. 14. Савецкі кампазітар-песеннік (песні «Зялёнымі прасторамі». «Ой, туманы мае, растуманы» і г. д.). 15. Снежная завіруха. 16. Пачатак харавой песні. 17. Абмежаваны ў правах орган мясцовага самакіравання ў дарэвалюцыйнай Расіі. 18. Кірунак свету. 19. Паэма А. Звонака. 20. Народны артыст Беларусі, саліст тэатра оперы і балета. 21. Гарантыя вяртання каштоўнасцей. 22. Буйное прамысловае прадпрыемства. 23. Наказ паслядоўнікам, нашчадкам. 24. Колішні маёнтак М. Агінскага на Гродзеншчыне. 25. Буйны горад у Харватыі. 26. Частка грошай, якая ўносіцца як зарука выканання ўсяго абавязацельства. 27. Чалавек, які лечыць зёлкамі і замовамі. 28. Тайнае пагадненне для дасягнення пэўных палітычных і іншых мэт. 29. Месца ў шахце для здабычы карысных выкапняў. 30. Араторыя Я. Глебава. 31. Сукупнасць аздараўленчых гімнастычных практыкаванняў. 32. Горад у Сербіі. 33. Цемнаваты колер скуры ў выніку ўздзеяння сонечных праменняў. 34. П'еса В. Дуніна-Марцінкевіча. 35. Буйное возера ў Казахстане. 36. Абавязковае правіла, устаноўленае вышэйшым органам дзяржаўнай улады. 37. Беларускі мастак (карціна «Пахаванне героя»). 38. Раённы цэнтр у Літве. 39. Пачатак музычнага твора. 40. Раман Б. Палявога.

**Склаў Валерый ПІНЧУК.**
*г. Бабруйск.*



### ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка-пераклад (7 снежня). Па гарызанталях:** 5. Швайка. 6. Агрэст. 8. Грамада. 9. Альяс. 11. Ранак. 13. Дыван. 16. Жніво. 17. Дзьмухавец. 20. Павал. 21. Раўчук. 23. Катах. 24. Япрук. 25. Ровар. 26. Байка. 29. Айчына. 30. Абсяг. 32. Зневажанне. 35. Абцас. 36. Рымар. 38. Бляха. 41. Крысо. 42. Расклад. 43. Творца. 44. Ухвала. **Па вертыкалях:** 1. Пасма. 2. Хабар. 3. Гармата. 4. Цэгла. 5. Шарпак. 7. Таямніца. 10. Выява. 12. Свята. 14. Узворванне. 15. Меркаванне. 18. Маркач. 19. Пляма. 22. Чарада. 23. Кораk. 27. Асоба. 28. Калаўрот. 31. Ядваб. 33. Вільчак. 34. Цырата. 37. Усход. 39. Аркуш. 40. Склад.

**Галаваломка (7 снежня).** Прымаўка чытаецца так: «Чалавек без Радзімы, што салавей без песні».

### ХОДАМ ШАХМАТНАГА КАНЯ



| | a | b | c | d | e | f | g | h |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | о | а | з | к | с | ц | і | н |
| 7 | е | я | в | с | д | а | е, | е |
| 6 | р | й | о | ц | й | к | е | в |
| 5 | с | п | а | у. | С | у | т | з |
| 4 | ч | ы | ь. | о | с | ч | а | с |
| 3 | а | П | а, | а | Б | в | д | р |
| 2 | в | с | р | б | в | г | ю | р |
| 1 | а | р | а. | я | о | а | а | а |

У гэтай галаваломцы зашыфраваны адразу тры прыказкі. Прачытаць іх можна, выкарыстоўваючы правіла, па якім ходзіць у шахматах конь. Пачынаць трэба з літары «С», якая стаіць на полі e5. Заўважым, што на кожнае поле конь можа пайсці толькі адзін раз.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*

### МІНІ-КРЫЖАВАНКА

У ёй словы размешчаны па перыметру квадрата, а таксама ад кожнай лічбы да цэнтра.

**Па перыметру:** 1. Лішні клопат, непрыемны абавязак. 2. Кустовая ягадная расліна сямейства ружакветных. 3. Апошняя літара грэчаскага алфавіта. 4. Працейшая аднаклетачная жывёла. 5. Скульптура А. Глебава. 6. Аб'ява аб канцэрце, спектаклі, лекцыі. 7. Цяж, звычайна з тоўстага дроту, ад аглоблі да пярэдняй восі. 8. Чалавек як носьбіт пэўных уласцівасцей, якасцей, рыс.

**Да цэнтра:** 1. Неабсяжная прастора, разлегласць. 2. Беларускі скульптар, народны мастак СССР. 3. Стваральнік навуковай працы, літаратурнага твора, праекта. 4. Верш А. Пушкіна. 5. Дзікі асёл, які водзіцца ў Паўднёва-Заходняй Азіі. 6. Мастацкі стыль, які склаўся ў Францыі ў часы першай імперыі. 7. Выканаўца роляў у тэатральнай пастаноўцы. 8. Персанаж рамана В. Лацыса «Да новага берага».

**Склаў Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.**
*г. Мінск.*




### КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, якія спачатку трэба разгадаць, прачытайце ў клетках па акружнасці вядомую народную мудрасць.

а) 1-2-3-4-5-6-7-8 — жыллё дробных перапончатакрылых насякомых, якія жывуць вялікімі сем'ямі;

б) 9-10-4-11-6-12 — памяшканне для ўтрымання коней;

в) 13-14-15-4-16-17-16 — настаўнік, выкладчык.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён.*



Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 463085 серыі А, выдадзенае на імя **Боціка Міхаіла Іванавіча,** лічыць **несапраўдным.**

Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № 873193 серыі А, выдадзенае на імя **Сяргея Аляксандра Аляксеевіча,** лічыць **несапраўдным.**

Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 343350 серыі А, выдадзенае на імя **Грабянцова Анатоля Георгіевіча,** лічыць **несапраўдным.**

Закрытае акцыянернае страхавое таварыства **«Белстрахкам» ліквідуецца**. Прэтэнзіі прымаюцца ў пісьмовым выглядзе на працягу 2 месяцаў з дня апублікавання гэтай аб'явы. **Тэлефон для даведак — 268-35-56.**



# АРАБСКІ ГАРАСКОП на наступны тыдзень

На наступным тыдні ВАДАЛЕЮ рэкамендуецца прысвяціць сябе грамадскай дзейнасці і зносінам з сябрамі. Абавязкова знайдзіце час адпачыць і набрацца свежых сіл. Доўгатэрміновыя планы, распрацаваныя цяпер, дапамогуць вам у будучым, асабліва калі вы прыслухаецеся да думкі больш вопытных людзей.

Сітуацыя складваецца так, што РЫБАМ прыйдзецца вырашаць шмат праблем адначасова. Будзьце вельмі асцярожнымі і разважлівымі пры прыняцці важных рашэнняў. Пастарайцеся пазбегнуць спрэчак, бо цяпер яны ні да чаго, акрамя ўзаемнага раздражнення, не прывядуць. Будзьце асабліва ўважлівымі да сваіх блізкіх.

У АВЕНА з'явіцца спакуса фарсіраваць падзеі, каб атрымаць хуткія вынікі. Але помніце, што больш цікава і прадуктыўна ў гэты перыяд будзе працаваць не ў адзіночку, таму пастарайцеся пашырыць свае сувязі і палепшыць адносіны з вашымі партнёрамі.

Дзелавыя партнёры ЦЯЛЬЦА перажываюць перыяд фінансавага росквіту. Прыкладзіце толькі невялікае намаганне — і вы дасягнеце вынікаў, аб якіх і не марылі. Вашы абаяльнасць і таленты дапамогуць вырашыць шмат праблем, прычым не толькі ў асабістым жыцці, трэба толькі правільна выбраць час.

Калі БЛІЗНЯТЫ будуць разлічваць на дапамогу сваіх сяброў, верагоднасць поспеху блізкая да нуля. Цяпер усе вашы праблемы лепш вырашаць самастойна. Магчыма, што падзеі ў бліжэйшы час будуць развівацца не зусім так, як вы б таго жадалі, але паўплываць на іх ход наўрад ці ўдасца.

У РАКА будзе вялікае спакушэнне вырашыць усе свае праблемы адначасова, але цяпер аб гэтай задуме лепш забыць, таму што кожнае пытанне патрабуе індывідуальнага падыходу. Нагадайце іншым аб іх абавязках, і тады вам, магчыма, удасца перакласці ільвіную частку сваіх клопатаў на іх плечы.

Апошнім часам ЛЕЎ вельмі старанна адносіўся да выканання сваіх абавязкаў. Надышоў час адпачыць і падумаць аб сабе. Забаўляйцеся і не давайце руціне ніякага шанцу завалодаць вамі! Магчыма, праз нейкі час, вярнуўшыся да сваіх праблем, вы ўбачыце, што яны вырашыліся самі па сабе.

ДЗЕВА будзе літаральна разрывацца паміж сям'ёй і шматлікімі новымі знаёмымі. Увага! Добра падумайце, што для вас больш важнае. Інакш вы рызыкуеце страціць усё адразу. А лепш за ўсё займіцеся працай — і авечкі будуць цэлыя, і ваўкі сытыя.

ШАЛЯМ трэба памятаць, што набліжаецца час святаў, і многія сябры і блізкія чакаюць вашых віншаванняў. Падарыце гэтым людзям часцінку вашай душэўнай цеплыні, і вы будзеце ў сто разоў узнагароджаны за гэта іх любоўю і ўвагай. У ваша дзелавое жыццё гэты тыдзень наўрад ці прынясе штосьці новае.

Асноўную частку часу СКАРПІЁН будзе вырашаць фінансавыя пытанні, асабліва калі ён збіраецца ажыццявіць паездку за мяжу. Не шкадуйце намаганняў, звязаных з ажыццяўленнем вашых планаў, інакш у будучым вам прыйдзецца прынесці больш сур'ёзныя ахвяры.

СТРАЛЬЦУ цяпер самы час забыць усе клопаты і непрыемнасці мінулага года. Дапамажыце вашым сябрам сустрэць новы год у такім жа цудоўным настроі, як і ваш. Цяпер вы ўсюды будзеце жаданым госцем, таму не губляйце магчымасці выкарыстаць сваю абаяльнасць яшчэ і ў практычных мэтах!

КАЗЯРОГУ трэба пастарацца звесці да мінімуму свае абавязкі, таму што наступны тыдзень будзе надзвычай сумбурным. У той жа час ні ў якім разе не губляйце магчымасці змяніць да лепшага сваё асабістае жыццё, а такая магчымасць вам абавязкова надарыцца!

**Марыя ЛЯПЁХА,**
**кар. ІТАР-ТАСС,**
*Каір.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7839.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12